Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4924) 26 мая 2017 г.


Эфект Радашковічаў 4


Лепшы сябра паэта 5


Прастора Караткевіча 10


Аніматар і яго выпрабаванні 13


Творчая «збруя» Каміля Камала 16

# ЗА АДКРЫТЫМІ ДЗВЯРЫМА

## Галоўны літаратурны музей краіны зноў чакае наведнікаў!

**Адкрыццё музея цяпер сталася ў пэўным сэнсе сюрпрызам. Напрыканцы мінулага года дырэктар музея Зміцер Яцкевіч паведамляў нам, што праца музея ва ўласным будынку мусіць распачацца да 30-годдзя музея, г. зн. увосень. «Аднак будынак прастойвае, у той час як гэтулькі прасторы гатова да актыўнай выставачнай працы. І мы вырашылі пачаць раней, — распавёў дырэктар. — Можна лічыць, што музей цалкам вярнуўся ў рабочы стан, пасля гэткага летаргічнага сну. Нашыя супрацоўнікі правялі велізарную работу, чым я вельмі ўсцешаны». Тут варта зазначыць, што праца музейшчыкаў сапраўды была тытанічная: па-першае, падрыхтоўка экспазіцыі; па-другое, супрацоўнікі актыўна рыхтаваліся да Ночы музеяў. У выніку ўсё атрымалася, і адкрыццё літаратурнага храма набыло сімвалічны характар, прыпаўшы на святочна-прафесійную дату.**


Фота Надзеі Бужан.

*Экспазіцыя, прысвечаная Кандрату Крапіве.*

Першай імпрэзай у родных сценах стала для Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры выстаўка акварэляў Фёдара Кісялёва. Назва яе — «У глыбінях душы нашых душ карані…» — шмат у чым тлумачыць канцэпцыю выстаўкі, а таксама — яе сувязь з тэмай літаратуры.

Вядомы мастак-акварэліст гэтым разам выставіў работы, паяднаныя тэмай знакавых беларускіх мясцінаў. Адныя з іх з'яўляюцца неад'емнай часткай нашай гісторыі, іншыя — звязаныя з біяграфіямі слынных пісьменнікаў: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Адама Міцкевіча, Янкі Купалы, Алякся Пысіна, Міхася Стральцова, Віктара Карамазава. Апошні, да слова, браў удзел у адкрыцці імпрэзы. А сам Фёдар Кісялёў зазначыў, што яму найбольш блізкія аўтары Пасожжа — мясціны, роднай мастаку.

Акром работ Фёдара Кісялёва, падрыхтаваныя да агляду выстаўка экслібрысаў, экспазіцыя па творчасці Кандрата Крапівы, выстаўка, прысвечаная Віцебскай мастацкай школе, а галоўнае — зала, прысвечаная рэпрэсаваным пісьменнікам.

З доўгачаканым вяртаннем музей віншавалі калегі, Міністэрства культуры, тэатральныя дзеячы. Быў і падарунак: Фёдар Кісялёў перадаў у дар музею работу «Зіма ў Навагрудку». Аднак самымі помнымі сталі словы мастака Рыгора Сітніцы: «Калі ёсць у краіны музей — значыць, ёсць нацыя, якая мае скарбы, і іх трэба зберагаць для нашчадкаў. Захаванне скарбаў нацыі ў вечнасці — вось што яднае творцаў і музеі».

**Наста ГРЫШЧУК**


Фота Вікторыі Аскера.

*Узнагароды лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва.*

# ІМЁНЫ З «ШОРТ-ЛІСТА»

## Упершыню ў Беларусі назвалі лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва

**У жніўні 2016 года Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь абвясціла: у краіне будзе заснаваная Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва. І літаральна тыдзень таму ў Палацы мастацтваў адбылася першая ў краіне ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў доўгачаканай прэміі.**

Навіна пра магчымасць стаць лепшым у сваёй справе ўскалыхнула айчынную мастацкую прастору: творцы праявілі вялікую цікавасць да конкурсу. Усяго на ўдзел паступіла 310 заявак, а на суд журы было прадстаўлена 63 прэтэндэнты. Стаць удзельнікамі конкурсу маглі аўтары твораў выяўленчага мастацтва ў любых відах, жанрах і мастацкіх тэхніках і аўтары твораў літаратуры пра выяўленчае мастацтва, створаных за апошнія тры гады.

Працяг на стар. 12 ►

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з Днём тэзаімяніна. «Вашы асветная і дабрачынная дзейнасць, энергія і духоўная сіла ўсяляк садзейнічаюць высокаму аўтарытэту Рускай Праваслаўнай Царквы, гарманізацыі міжнацыянальных і міжрэлігійных адносін, захаванню гістарычнай і культурнай спадчыны, яднанню славянскіх народаў», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста РСФСР Аляксандра Калягіна з 75-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі высока цэняць творчасць артыста, а тэатр, які ён узначальвае, на працягу многіх гадоў нязменна радуе публіку цікавымі праектамі і запамінальнымі пастаноўкамі. «Упэўнены, Ваша шматгранная дзейнасць і ў далейшым будзе садзейнічаць умацаванню дружбы і культурных сувязей паміж нашымі народамі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Часопіс «Беларуская думка» з пачатку сваёй гісторыі ўмацоўвае асновы беларускай дзяржаўнасці. Такое меркаванне выказаў на ўрачыстасці з нагоды 95-годдзя грамадска-палітычнага і навукова-папулярнага часопіса «Беларуская думка» першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Максім Рыжанкоў. Нягледзячы на багацце перыёдыкі, рэсурсаў у інфармацыйнай прасторы, часопіс трывала трымае марку самага сур'ёзнага выдання, якое дае ў тым ліку магчымасць заявіць пра сябе вучоным-пачаткоўцам. Максім Рыжанкоў зачытаў віншаванне кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі калектыву рэдакцыі.

✔ Праваслаўная Беларусь адзначыла з'яўленне Жыровіцкай іконы Божай Маці. У мінулыя выхадныя ў чацвёрты раз адбыўся фестываль «Жыровіцкі фэст». Арганізатары мелі на мэце аб'яднаць людзей вакол урачыстасці, якая штогод ладзіцца ў адной з самых прыгожых мясцін Беларусі і з якой звязаная гісторыя з'яўлення найвялікшай святыні — Жыровіцкай іконы Божай Маці. Святочную Боскую літургію ва Успенскім Жыровіцкім ставрапігіяльным мужчынскім манастыры ўзначаліў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

✔ У Каралеўстве Камбоджа з 20 па 23 мая прайшлі Дні культуры Беларусі. У Пнампені ў канцэртнай зале 21 мая адбылося іх адкрыццё. На цырымоніі гасцей віталі намеснік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік, які ўзначаліў афіцыйную дэлегацыю Беларусі, і міністр культуры і выяўленчага мастацтва і музыкі Камбоджы Фаеурнг Сахона. Як адзначыў Васіль Чэрнік, народы Беларусі і Камбоджы маюць гістарычны досвед і багатыя культурныя традыцыі, знаёмства з нацыянальнай спадчынай краін здольнае ўзаемна ўзбагаціць культуры.

✔ Дабрачынны канцэрт да Міжнароднага дня абароны дзяцей пройдзе ў «Мінск-Арэне». У канцэрце возьмуць удзел зоркі беларускай і расійскай эстрады, а таксама дзіцячыя творчыя калектывы. Гэта ўжо дзясяты па ліку канцэрт, які арганізоўваюць у Мінску дабрачынныя фонды «Дакрананне да жыцця» і «Крыніца дабрыні». Мерапрыемства праводзіцца пры падтрымцы міністэрстваў аховы здароўя, адукацыі, культуры, інфармацыі, працы і сацыяльнай абароны, Камітэта па адукацыі Мінскага гарвыканкама, Прэзідэнцкага спартыўнага клуба, Беларускага саюза жанчын. Арганізатарам выступае Музычная капэла «Санорус» Мінскай вобласці.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# МАЛАДЗЕЧНА: ЛІРЫЧНАЯ ПРАДМОВА

Напярэдадні адкрыцця XVII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне — 31 мая і 1 чэрвеня — Саюз пісьменнікаў Беларусі мае намер стварыць адпаведны настрой. Пры падтрымцы рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь» на розных пляцоўках горада пройдуць прэзентацыі, аўтограф-сесіі, паэтычныя імпрэзы з удзелам беларускіх творцаў — незабыўныя сустрэчы з высокім мастацкім словам!

Сукведце паэтаў Міншчыны на чале са старшынёй Мінскага абласнога аддзялення СПБ Святланай Быкавай рыхтуе святочны сюрпрыз для педагогаў і навучэнцаў гімназіі-каледжа мастацтваў г. Маладзечна. Праграма «Класікам-землякам прысвячаецца» запланаваная на 31 мая.

Захапляльнай абяцае быць у гэты ж дзень і сустрэча з лаўрэатамі прэміі Саюзнай дзяржавы Алегам Елісеенкавым ды Іванам Юркіным. Шаноўныя госці завітаюць у маладзечанскую гімназію № 10, каб прадставіць выбітны музычна-паэтычны праект «Дзе каліна цвіла». Дарэчы, нядаўна выйшаў паэтычны зборнік Івана Юркіна, які ён мяркуе перадаць у дар гімназісткам.

Фотапаэтычны альбом Уладзіслава Цыдзіка «Зачараваны Беларуссю» стаў з'явай у культурным жыцці краіны. У ім фатаграфіі спалучаны з паэтычнымі радкамі. Пра зачараванне Беларуссю аўтар разам з паэтэсамі Рэгінай Рэўтовіч ды Людмілай Круглік і бардам Генадзем Парыкіным распавядуць падчас творчай сустрэчы з калектывам Маладзечанскай раённай бальніцы.

«Тварыце, людзі, на зямлі дабро!» — так называецца творчая сустрэча з паэтам Міхасём Пазняковым, якую зладзяць у філіяле «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга». Да паэта далучацца артыст тэатра і кіно, кампазітар і спявак Сяргей Кравец, спявачка Іна Кравец, артыстка эстрады Вольга Багушыньска.

Чарговы раз парадуе земляко ў творчасцю і паэт-песеннік Кастусь Цыбульскі. У Маладзечанскай музычнай школе мастацтваў ён выступіць з праграмай «Я — вечны парастак Радзімы». Падтрымаюць паэта кампазітар і выканаўца Яўген Хаменка, салісты беларускай эстрады Валянціна Альшанская, Ігар Задарожны.

У Міжнародны дзень абароны дзяцей запланаваны творчыя сустрэчы з дзіцячымі пісьменнікамі Уладзімірам Мазго, Міколам Чарняўскім, Нінай Галіноўскай, Тамарай Бунта.

У дні фестывалю паэтычнае слова сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі будзе гучаць і ў іншых кутках Маладзечна: у паэтычнай гасцёўні «Красуй, Беларусь!», у кнігарні, на гульнёва-забаўляльнай пляцоўцы «Свет дзяцінства». Са сцэны прагучаць творы Янкі Купалы ды Якуба Коласа.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Вершы для Скарыны

### Адказнасць перад класікамі ў маштабным інтэрактыўным уроку беларускай мовы

Скончыўся першы этап сацыяльнага адукацыйнага праекта «Чытаем па-беларуску з *velcom*». За паўтара года існавання праекта каманда «Чытаем па-беларуску з *velcom*» праехала па Беларусі 21 000 кіламетраў, ахапіла 40 населеных пунктаў і зладзіла ўрокі ў 184 школах і гімназіях ва ўсіх рэгіёнах краіны. Па спецыяльна распрацаванай праграме з пастаяннымі настаўнікамі праекта — пісьменнікамі Уладзімірам Ліпскім, Раісай Баравіковай, Аленай Масла, Наталляй Бучынскай, а таксама тэлевядучым Юрыем Жыгамонтам — займаліся 23 000 вучняў 2 — 4 класаў.

— Па-першае, праект «Чытаем па-беларуску з *velcom*» дапамог школьнікам зразумець, што па-беларуску размаўляюць многія, — сцвярджае пісьменніца Раіса Баравікова. — Па-другое, яны атрымалі магчымасць пазнаёміцца не проста з сучаснай беларускай літаратурай, але і з тымі пісьменнікамі, якія яе ствараюць, наўпрост паразмаўляць з імі. Дзеці далучыліся да роднага слова ды пераканаліся ў існаванні цікавай беларускай прозы і паэзіі.

На апошні ў гэтым навучальным годзе інтэрактыўны ўрок прыехалі дзеці з Жодзіна, Дзяржынска, Маладзечна, Полацка, Воршы, аграгарадка Квасоўка Гродзенскай вобласці. На тэрыторыі ўнутранага дворыка галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта для іх зладзілі квэст «Шляхам асветнікаў». Вучні выконвалі заданні перад помнікамі славутых дзеячаў беларускай культуры. Кірыла Тураўскі сачыў за гульнёй у беларускамоўнага «крадзіла», Сымон Будны ды Васіль Цяпінскі слухалі толькі што прыдуманыя казкі, а Ефрасіння Полацкая назірала за паэтычнымі выступамі школьнікаў, Францыск Скарына дапамагаў скласці Біблію. Кандрат Крапіва, Яўгенія Янішчыц, Рыгор Барадулін — акрамя твораў класікаў журы ацэньвала нават вершы, напісаныя самімі дзецьмі.

Пісьменніца Алена Масла распавяла, што акцыя атрымала працяг для яе асабіста. Падчас вандровак па рэгіёнах Беларусі з новай дзіцячай кніжкай «Мяне завуць Лахнэска» яна наладзіла дыялог са школьнікамі, пачала пісаць працяг: у размовах з дзецьмі з'явіліся новыя сюжэтныя хады і нават новыя героі.



*Тэлевядучы Юрый Жыгамонт віншуе аднаго з пераможцаў квэсту.*

— Акцыя атрымалася вельмі цікавая паводле камунікацый. Цягам нашых сустрэч дзеці раскрываліся: расказвалі пра сваё жыццё, прыносілі ўласныя вершы, малюнкі. Засмучае, што ў большасці школьнікаў родная мова пакуль на нізкім узроўні, — мяркуе Алена Масла. — Зараз ладзяць многа акцый і мерапрыемстваў, скіраваных узняць цікавасць да беларускага слова. Цешыць, што буйная кампанія падтрымала гэтую тэндэнцыю і аб'яднала розныя сілы: школы, пісьменнікаў, спартоўцаў, дзеячоў культуры.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**29 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак а 14.30.*

**30 мая** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**30 мая** — *на літаратурна-музычную імпрэзу паэтычнага тэатра «Рытмы сэрца» з удзелам мінскіх паэтаў у актавую залу БДУІР. Пачатак а 15.30.*

**30 мая** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Аляксандра Сілецкага ў публічную бібліятэку № 5. Пачатак а 17.30.*

**31 мая** — *на літаратурную імпрэзу «Зноў памяць з намі пра вайну» з удзелам пісьменніка Міколы Чарняўскага ў публічную бібліятэку № 13. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**1 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам Міхасём Пазняковым «Тварыце, людзі, на зямлі дабро» ў г. Маладзечна. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**31 мая** — *на літаратурна-музычную кампазіцыю «Класікам-землякам прысвячаецца» ў межах XII Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі «Маладзечна-2017» з удзелам паэтаў Міншчыны ў Маладзечанскі музычна-мастацкі каледж. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**26 — 27 мая** — *на VII Рэспубліканскі фестываль рускай паэзіі «Созвучье слов живых». Адкрыццё адбудзецца 26 мая ў Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна а 15-й гадзіне.*

**29 мая** — *на сустрэчу з паэтам і публіцыстам Надзеяй Парчук у СШ № 12 г. Брэста. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**31 мая** — *у Брэсцкую цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна на пасяджэнне літаратурнага клуба «Адкрыццё» (кіраўнік — пісьменніца Зінаіда Дудзюк). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**30 мая** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Славадром» у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Ф. Карскага. Тэма дыскусіі: «Гістарычная праўда: шлях да сябе». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**31 мая** — *на чарговы этап Тура грамадзянскай паэзіі «Пад мірным небам Беларусі» з удзелам гродзенскіх творцаў у Цэнтр культуры і вольнага часу аграгарадка Абухава Гродзенскага раёна. Пачатак а 18-й гадзіне.*

# БЫЦЬ СУПОЛЬНАСЦЮ

**Цяжкім выдаўся сёлетні з'езд Міжнароднага саюза грамадскіх арганізацый «Міжнародная супольнасць пісьменніцкіх саюзаў». Зрэшты, гэта быў нават не з'езд, як у папярэднія гады, пачынаючы з 1992-га, а справаздачна-выбарны сход.**



*Беларуская дэлегацыя каля Дома Растовых.*

На сход з'ехаліся прадстаўнікі 27 краін з 51, пісьменніцкія арганізацыі якіх уваходзяць у склад МСПС. Яны прадстаўлялі не толькі былыя рэспублікі Савецкага Саюза, але і краіны далёкага замежжа. Нават Афганістан, дзе, аказваецца, перакладаюцца і творы беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку сучасных. 70-працэнтны кворум дазволіў форуму быць паўнамоцным у прыняцці рашэнняў, а гэта, акрамя выбараў новага кіраўніцтва, зацвярджэнне справаздачы старшыні аб выкананні бюджэту на 2016 год і зацвярджэнне бюджэту арганізацыі на 2017-ты. Ён застаўся нязменным — сорак мільёнаў расійскіх рублёў. З гэтай сумы на падтрымку пісьменніцкіх арганізацый блізкіх і далёкіх краін запланавана крыху больш за адзін мільён рублёў.

Міжнародная супольнасць пісьменніцкіх саюзаў вядзе адлік сваёй дзейнасці з 3 чэрвеня 1992 года. У гэты дзень на IX з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР было прынята рашэнне аб пераўтварэнні арганізацыі ў інтэрнацыянальную садружнасць літаратараў — МСПС. Прычына зразумелая: СССР спыніў сваё існаванне, і пісьменніцкія арганізацыі саюзных рэспублік сталі самастойнымі структурамі. Пісьменнікі востра адчувалі патрэбу ў зносінах з калегамі, якія жывуць сёння ў суверэнных краінах.

Узначаліў гэтую арганізацыю самы аўтарытэтны на той час літаратар Сяргей Міхалкоў, пісьменнік-легенда. Літаратурная прэмія яго імя да гэтага часу адна з самых прэстыжных у Расіі, а заснавальнікам яе з'яўляецца МСПС. Сяргей Уладзіміравіч кіраваў МСПС з 1992-га па 2009 год, а затым перадаў кіруючую эстафету Івану Пераверзіну.

Галоўная задача МСПС — захаванне на тэрыторыі СНД адзінай культурнай прасторы, зацвярджэнне і ўмацаванне духоўных сувязяў нацыянальных культур былога СССР, а таксама падтрыманне і развіццё супрацоўніцтва з пісьменніцкімі арганізацыямі і асобнымі літаратарамі ва ўсім свеце. Друкаванымі органамі МСПС з'яўляюцца «Общеписательская Литературная газета» і альманах «Вестник МСПС».

Будынак па вуліцы Паварской 52/55, у якім размяшчаецца выканаўчы камітэт МСПС, вядомы як «Дом Растовых», дарэчы, класіфікуецца як будынак-славутасць, які, да ўсяго, знаходзіцца ў цэнтры Масквы. Леў Талстой у сваім рамане «Вайна і мір» размясціў герояў геніяльнага твора якраз у гэтым будынку, які, палічыў, як мага лепш упісваецца ў агульны сюжэт эпапеі. Класік рускай і сусветнай літаратуры часта ў гэтым доме бываў.

І менавіта ў гэтыя дні вырашаецца лёс Дома Растовых (офіса МСПС) і пісьменніцкага гарадка Перадзелкіна. Не ўтрымаць гэтыя аб'екты — значыць застацца ні з чым. Таму кіраўнік МСПС заклікаў усе арганізацыі, якія ўваходзяць у Супольнасць, падтрымаць арганізацыю, найперш накіраваць лісты ў кіруючыя структуры Расійскай Федэрацыі з патрабаваннем не перадаваць нерухомую маёмасць Супольнасці ў іншыя рукі.

На форуме таксама была ўнесена прапанова ладзіць з'езды, сходы, пленумы МСПС не толькі ў Маскве, але і ў краінах, у якіх актыўна працуюць структуры ўплывовай і разгалінаванай міжнароднай пісьменніцкай арганізацыі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# ПАЭЗІЯ Ў «ПАГОНАХ»

У трэці раз супрацоўнікі гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама спаборнічалі ў паэтычным аглядзе-конкурсе. Гэтым разам у Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі канкурсанты дэманстравалі ўменне валодаць словам.

Пісьменнікаў Анатоля Аўруціна, Уладзіміра Навумовіча, Уладзіміра Дарашэвіча запрасілі ў склад журы, будучы ўпэўненымі ў іх кампетэнтных ацэнках.

Кожны з выступоўцаў рыхтаваў па два творы. Адзін з іх прысвячаўся знамянальнай даце — 100-годдзю беларускай міліцыі, другі — тэме Вялікай Айчыннай вайне і радасці вясны Перамогі.

Супрацоўнікі міліцыі праявілі таленты, чытаючы вершы знакамітых аўтараў. Сярод канкурсантаў — і тыя, хто прадстаўляў уласную творчасць — вершы, народжаныя пад уплывам міліцэйскай службы.

Намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама палкоўнік міліцыі Дзмітрый Грачыха адзначыў, што надзвычай прыемна бачыць рост папулярнасці паэтычнага конкурсу, жаданне многіх супрацоўнікаў чытаць радкі, што ідуць ад сэрца. Сваім прыкладам яны паказваюць, наколькі змястоўным і цікавым можа быць жыццё чалавека. Навошта яго траціць на дробязі, парушаць закон, каб потым несці суровае пакаранне?

Больш як тры дзясяткі ўдзельнікаў конкурсу адзначаны ўзнагародамі ў намінацыях «Служу Рэспубліцы Беларусь!», «Лепшае чытанне вершаў пра вайну», «Бацькаўшчына», «Творчы погляд».

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі высока ацанілі ініцыятыву супрацоўнікаў мінскай міліцыі далучацца да прыхільнікаў мастацкага слова. Ёсць намер працягнуць сумеснае супрацоўніцтва, якое паспрыяе ўмацаванню сапраўдных каштоўнасцяў у грамадстве.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

## ЛіМ-каляндар

**22 мая** — 110 гадоў з дня нараджэння Алены Аладавай (1907 — 1986), беларускага мастацтвазнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, заслужанага дзеяча культуры Польшчы.

**22 мая** 75 гадоў споўнілася Уладзіміру Уроднічу, беларускаму жывапісцу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**23 мая** — 110 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мяжэвіча (1907 — 1982), беларускага празаіка, журналіста.

**23 мая** 75-гадовы юбілей адсвяткаваў Аляксандр Рэнанскі, беларускі кампазітар, педагог, культуролаг.

**24 мая** 80-годдзе адзначыла Нэлі Андросава, беларускі харавы дырыжор.

**25 мая** — 100 гадоў з дня нараджэння Янкі Непачаловіча (1917 — 1969), беларускага паэта.

**25 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Міколы Купрэева (1937 — 2004), беларускага паэта, празаіка.

**26 мая** — 105 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Верамейчыка (1912 — 1990), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**26 мая** — 75 гадоў з дня нараджэння Янкі Галубовіча (1942 — 2014), беларускага празаіка.

**27 мая** — 85 гадоў з дня нараджэння Анатоля Сабалеўскага (1932 — 2012), беларускага тэатразнаўца, крытыка, літаратуразнаўца, педагога, празаіка.

**27 мая** — 85 гадоў з дня ўтварэння ў БССР Саюза пісьменнікаў.

**28 мая** — 90 гадоў з дня нараджэння Валянціны Шчадрыной (1927 — 2008), перакладчыка, заслужанага работніка культуры БССР. Жыла ў Маскве.

**28 мая** — 90 гадоў з дня заснавання Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

**28 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Генрыха Ціхановіча (1937 — 2000), беларускага жывапісца, графіка.

**28 мая** 80 гадоў спаўняецца Людміле Шаламенцавай, беларускай піяністцы, педагогу, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР.

**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра моў | – старшы выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра тэорыі музыкі | – загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 3 | кафедра спецыяльнага фартэпіяна | – прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 4 | падрыхтоўчае аддзяленне | – старшы выкладчык (1,0 шт. адз.) |

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | **4 р. 50 к.** | 63856 |
| Ведамасная падпіска | **12 р. 70 к.** | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | **3р. 00 к.** | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | **9 р. 60 к.** | 63880 |

## Дайджэст

• Роўна 100 год мінула, як не стала Максіма Багдановіча. «25 мая 1917 года на беларускім паэтычным небасхіле яго зорка згасла, але светлы след яе заўсёды будзе жыць у нашых сэрцах і думках», — адзначаюць у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, які 25 мая зладзіў шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня памяці вялікага паэта. Прыхільнікі таленту беларускага Страцім-лебедзя ўсклалі кветкі да яго помніка ў скверы ля Тэатра оперы і балета, а ў Саборы святых Пятра і Паўла (г. Мінск, вул. Няміга, 4) прайшла памінальная служба. Запамінальным паэтычным працягам Дня памяці Максіма Багдановіча стала літаратурна-музычная вечарына «Светлы след...», падчас якой адбыліся выступы гурта «Нельга забыць» з адмысловай праграмай на вершы паэта і народнага тэатра «Жывое слова».

• Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі (БелНІЦЭД) выклаў у адкрыты доступ пошукавую сістэму «Дапаможнік», праз якую можна будзе атрымаць першасную інфармацыю пра гісторыю свайго роду. У пошукавай сістэме — тры графы для пошуку: «Паселішчы» (беларуская мова), «Паселішчы» (руская мова) і «Прозвішчы». Першыя дзве дапамагаюць знайсці інфармацыю пра населены пункт на дзвюх мовах, аднак у базе няма інфармацыі па Мінску і абласных цэнтрах. Як адзначае дырэктар БелНІЦЭД кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч, пражыванне ў сталіцы «не мае ніякага значэння для генеалогіі», паколькі нашыя продкі не былі гараджанамі і паходзілі з розных куткоў Беларусі. Усяго ў базе прадстаўлена каля 300 тысяч запісаў.

• Расійскі саюз пісьменнікаў запускае сеткавы тэлеканал Литклуб TV — новы праект, мэтай якога ёсць стварэнне творчага асяродка. Мяркуецца, што пісьменнікам удзел у праекце дапаможа найбольш поўна рэалізаваць свой патэнцыял, а чытачы атрымаюць магчымасць пазнаёміцца не толькі з творамі ўлюбёных аўтараў, але і з імі самімі. Канал будзе выпускаць праграмы ў фармаце аўтарскіх чытанняў, а таксама праграмы, у якіх літаратурныя крытыкі будуць праводзіць прафесійны аналіз літаратурных твораў.

• Кіраўнік *Microsoft* Біл Гейтс прапанаваў спіс кніг для чытання на летні адпачынак. Найбольш вартымі ўвагі сп. Гейтсу падаліся мемуары Трэвара Ноа пра жыццё ў Паўднёвай Афрыцы «Прыроджаны злачынца», кніга мастацкай прозы французскай пісьменніцы Мэйліс дэ Керангаль «Сэрца», «Вясковая элегія» амерыканца Дж. Д. Ванса, «*Homo Deus*. Кароткая гісторыя будучыні» ізраільскага ваеннага гісторыка-медыявіста Ювавя Ноя Харары і мемуары былога Прэзідэнта ЗША Джымі Картэра «Поўнае жыццё».

• Падчас Ночы музеяў у Арт-гасцінай «Высокае месца» беларускія пісьменнікі прэзентавалі кнігі серыі «Дзеці вайны», заснаванай выдавецтвам «Чатыры чвэрці». У гэтай серыі ўжо выйшлі мастацкія творы Л. Левановіча, М. Чарняўскага, М. Пазнякова, З. Дудзюк, А. Зэкава, І. Ярашэвіча і іншых (усяго на сённяшні дзень — больш за 20). Госці атрымалі магчымасць давецца пра асноўныя кірункі дзейнасці выдавецтва «Чатыры чвэрці», пазнаёміцца з аўтарамі кніг і сюжэтамі іх твораў. У прэзентацыі ўзялі ўдзел вучні 25-й мінскай гімназіі на чале з настаўніцай, загадчыцай краязнаўчага музея навучальнай установы Алінай Пахваленя.

# СЮЖЭТЫ ЦІХАГА МЯСТЭЧКА: КУПАЛА, АРГАН, КЕРАМІКА



*Помнік Янку Купалу.*

**Сядаеш на электрычку, выходзіш у Пятрышках і чакаеш аўтобус на Радашковічы. «Радашкавічы!» — папраўляе цябе ўнутраны голас, і ты вінавата пагаджаешся. Аўтобус нарэшце прыходзіць, і першае, што бачыш у салоне, — гэта не прыязная ўсмешка кіроўцы, не пільны позірк бабулек: цябе сардэчна вітае рэклама рытуальных паслугаў…**

Калі б Янка Купала патрапіў у Радашкавічы цяпер, ён, відаць, падараваў бы нам яшчэ адну п'есу. Напэўна, сатырычную. З сумным фіналам і чароўнымі краявідамі.

## ШЛЯХЦЮК У МЯШЧАНСТВЕ

…На той момант касцёлу Святой Тройцы, галоўнай знакамітасці мястэчка, было ўсяго 22 гады. Зусім мала для архітэктурнага помніка. Не ўзрост, як кажуць. А маленькаму Івану, сыну Дамініка, было й таго меней — які тыдзень. Іван атрымаў хрост у радашкавіцкім касцёле, а праз 150 гадоў радашкавіцкі касцёл атрымаў памятны знак. Мемарыяльная дошка сёння знаходзіцца проста ў храме й паведамляе: «150-годдзе Касцёла "Святой Тройцы" ў Радашковічах. 1860 — 2010. 12.VII.1882 у гэтым Касцёле атрымаў Сакрамант св. Хросту знакаміты беларускі пісьменнік і паэт Янка Купала».

Датычна фармулёўкі, вядома, ёсць пытанні. Прыкладам, дзе згубілася «ў»? І гэтае «пісьменнік і паэт»… Прабач божа, адвечная памылка. Згадаем бігборд з партрэтам Уладзіміра Караткевіча ў Воршы, дзе гэтаксама красаваліся «пісьменнік» і «паэт». Але ж гэта тое самае, як сказаць «жывёла і птушка» (ніякіх паралеляў).

Што цікава, пры хрышчэнні будучага Янку Купалу запісалі як дваранін. Пазней жа ва ўсіх афіцыйных паперах ён фігураваў як мяшчанін. Такая вось анты-п'еса Мальера. Зрэшты, такі «класавы кампраміс» лёгка зразумець...

Другі раз Радашкавічы з'явіліся ў жыцці Янкі Купалы ў 1903 годзе, дзе малады чалавек працаваў пісарам у судовага следчага. Думаецца, самога Купалу гэты этап біяграфіі мала цешыў. А вось Радашкавічам адныя плюсы: літаратурныя турысты, безумоўна, захочуць пабачыць помнік паэту, што знаходзіцца ля цэнтра творчасці моладзі, непадалёк ад моста праз рачулку Вязынку (надзвычай прыгожую, дарэчы). Гэтаксама недаравальна прамінуць указальнік «Вуліца Янкі Купалы». Праўда, указальнік рускамоўны.

## МЕСТАЧКОВЫЯ СЮЖЭТЫ

Якое магло б быць кіно: сціплая швачка з мястэчка марыць пра вялікае каханне і прынца, і вось ён здараецца — малады перспектыўны пісьменнік, з барадой і складаным мінулым, дзе было месца нелегальным арганізацыям, пераследам, турмам…

Насамрэч, так яно ўсё і было. У 1894 годзе ў Радашкавічах пабраліся шлюбам Люцыя Гнатоўская і Антон Лявіцкі — ён жа Ядвігін Ш.

Лёс аўтара першага беларускага рамана звязаны з Радашкавічамі больш шчыльна за лёс Купалы. Зрэшты, між сабою двух выбітных аўтараў паяднала гэтаксама радашковіччына. Так, сям'я Лявіцкіх пасялілася ў Карпілаўцы, што ля самога мястэчка. Тут у іх быў маёнтак, тут Антон наведваў нелегальную школу ў Люцынцы, якую арганізавала Каміла Дуніна-Марцінкевіч. Сюды ж празаік вярнуўся пасля шэрагу драматычных падзей: турма, смерць бацькі, пажар, што пакінуў сям'ю без дома. На заробак пяром разлічваць не даводзіцца ні ў якія часы, і Ядвігін Ш. падаўся ў аптэкары, працаваў у Радашкавічах.

І тут пра гэта памятаюць: на цэнтральным скрыжаванні, акурат каля аптэкі, месціцца мемарыяльны камень. Аднак аптэка, як высветлілася, не тая ж. Сапраўдны будынак старой фармацыі не захаваўся, а месціўся, па распаведзе аптэкаркі, недзе за паркам Гастэла, дзе цяпер — жылыя дамы.

Пазней аўтар рамана «Золата» паспрабаваў весці бізнес, меў крамку, але «пагарэў». У гэтай няўдачы быў свой сэнс: дзякуючы ёй Ядвігін Ш. вярнуўся ў Карпілаўку, дзе да яго прыязджаў у госці малады-невядомы Іван Луцэвіч. Для Купалы Ядвігін Ш. стаўся ўзорам: ён быў першы «жывы» беларускамоўны пісьменнік. Яму Купала чытаў свае першыя вершы, з ім раіўся, ягонай бібліятэкай карыстаўся. І толькі затым, пасля «радашковіцкай гісторыі», былі публікацыі ў «Нашай Ніве» і іншая гісторыя, не такая вясёлая, але ўсім вядомая.



*Царква святога Іллі.*

## ЖАРТЫ ТАПАНІМІІ

Некалі ў Радашках віравала літаратурнае жыццё. Дзейнічалі гурткі, праводзіліся вечарыны. Спрабавалі нават ставіць п'есу Ядвігіна Ш., аднак пракурор з Вілейкі, які па нешчаслівым супадзенні апынуўся не ў той час не ў тым месцы, наклаў на твор цэнзурнае табу.

А сёння, праблукаўшы па мястэчку некалькі гадзінаў, не пабачыш ніводнага шапіка з прэсай. Пра кнігарню казаць не выпадае. Паасобныя палічкі з маслітам і глянцавымі часопісамі ў разлік ісці не могуць.

Чаго хапае ў сённяшніх Радашкавічах, дык гэта маршрутак і гастранамічных крамаў. Ну й рытуальных паслугаў. Усё гэта нагадвае пачатак рамана «12 крэслаў». Апафеоз бізнес-кампаніі — на старадаўняй жоўтай будыніне шыльда «Бюро рытуальных паслугаў» суседнічае з шыльдай «Плошча Гастэла».

Такіх феерычных дробязяў хапае. Вось, прыкладам, дворык прыватнага дома, што месціцца каля касцёла. Будаўнічае смецце элегантна прыкрывае… маляваны дыван. Калі ведаеш, што тут, у Радашкавіцкай беларускай гімназіі, выкладаў Язэп Драздовіч, міжволі схаладзееш. Але ж не, дыван не Драздовічаў. З аднаго боку, супакойвае, з іншага — не вельмі. Ці мала было саматужных майстроў у Беларусі?..

Да слова, тая самая гімназія ў Радашкавічах была адкрытая на пачатку 1920-х намаганнямі Браніслава Тарашкевіча. Ён жа паклапаціўся пра стварэнне настаўніцкіх курсаў. Што цікава, у гімназіі не толькі выкладаў слынны мастак-дзівак. Тут вучыўся пасля 1926 года Яўген Скурко, будучы Максім Танк. Менавіта ў Радашкавічах пачаўся буйны рэвалюцыйны шлях паэта: у гімназіі Яўген звязаўся з «кепскімі хлопцамі» і далучыўся да камсамольскай падпольнай арганізацыі. Песня была надоўгай: за ўдзел у забастоўцы 1929 года сярод студэнтаў гімназіі Я. І. Скурко быў адлічаны.

## БАНДЭРАС НА ВІЛЕНСКАЙ

Акром літаратурных мясцінаў у Радашкавічах хапае й іншых цікавостак. Вось, прыкладам, царква святога Іллі. Служыцелька сказала, што царкве «гадоў 75». Выглядае ж храм маладзейшым, як быццам зусім новы. «Гэта бацюшка стараецца», — не без гонару кажа бабулька. Царква стаіць на ўзвышшы, і як яе самую відаць з любой кропкі гарадка, так і з парога царквы можна агледзець горад — як на далоні. Самыя вядомыя панарамныя здымкі мястэчка рабіліся, без сумніваў, адсюль.




*Мемарыяльны камень, прысвечаны Ядвігіну Ш.*

На той самай плошчы Гастэла можна пабачыць незвычайны дамок. Гэтая сціплая хатка магла б паспрачацца за тытул славутасці з вядомым піцерскім «вузкім домам».

Па вуліцы Віленскай вы сустрэнеце Антоніа Бандэраса, пабачыце шарападобны цагляны склад, старадаўнія дамы на два паверхі, прыўзнятыя над вуліцай каменным падмуркам (задняя дворыкі такіх дамоў — як зваротны бок медаля, што сумна). Таксама — евангелісцкую царкву, гэткі сімбіёз даўніны і белацаглянай сучаснасці.

Зрэшты, калі вы падарожнік са стажам і цэрквамі-мурамі вас не здзівіш; калі літаратура выклікае толькі стомленае пазяханне; калі вы не аматар старых пахаванняў са славутымі імёнамі на надмагіллях — можна проста прыехаць у ціхае мястэчка, адысці падалей ад Савецкай вуліцы ўздоўж рэчкі Вязынкі ці Гуйкі і, урэшце, адпачыць ад чалавечай мітуслівай гісторыі. Станоўчы эфект гарантаваны.

**Наста ГРЫШЧУК**

## ІМЕМ АЙЦА, СЫНА… І КЕРАМІКІ?

Ад бюста Янку Купалу да касцёла Святой Тройцы — хвілінаў пяць хады. Думкі пра хрост Івана Луцэвіча адыходзяць на другі план, калі бачыш дзіўны архітэктурны ансамбль: белы, прамяністы касцёл пад сінім небам, атачаны калючым дротам, цеплатрубамі і ласкава прытулены да малапрывабнага завадскога корпуса.

На пытанне «хто ж вінаваты?» адказ прадказальны: ваяўнічыя камуна-атэісты. Насамрэч, у Радашкавічах быў драўляны касцёл, яшчэ ў XV стагоддзі. У 1734 — 1736 годзе збудавалі новы, таксама драўляны (стары, відаць, не захаваўся). Аднак новы касцёл згарэў. Звыклая гісторыя: у Лепелі, прыкладам, быў таксама драўляны касцёл, збудаваны яшчэ пры Льву Сапегу. Зрэшты, пажары рэдка разбіраюцца ў гісторыка-культурных каштоўнасцях. Іншая справа, калі людзі, істоты быццам бы разумныя, уласнаруч пазбаўляюць сябе ўнікальных скарбаў. Гэтак ледзьве не сталася з радашкавіцкім касцёлам: у другой палове XIX стагоддзя адбудавалі каменны, у стылі позняга класіцызму, а ў 1946-м храм зачынілі — і прыстасавалі пад цэх завода «Беларуская кераміка». Касцёл дайшоў да аварыйнага стану. Пашчасціла, што ў 1990 годзе яго вярнулі каталікам, а ўжо вернікі, у сваю чаргу, вярнулі храм да жыцця.



Сёння гістарычна-культурнае вяртанне працягваецца. Па шчаслівай выпадковасці мне надарылася напаткаць у касцёле пробашча. Ён меў ласку распавесці, што ў храме вядуцца работы па аднаўленні й рэканструкцыі старадаўняга аргана. Інструмент датуецца канцом XIX стагоддзя, аднак насамрэч асобныя ягоныя часткі многа старэйшыя, «дапаўстанцкія». Пашчасціла нават пабачыць гэтага «дыназаўра». У разабраным выглядзе, але праз тое не менш велічным. Нават у касцёльнай цішыні ён, здаецца, гудзе. Самое маўчанне старадаўняга аргана гучыць як музыка. Пробашч кажа, работы зоймуць не менш як год. Калі ж інструмент давядуць да ладу, пра першую ўрачыстую імшу будзе абвешчана асобна.

# АДНА МУЗА ДЛЯ ПАЭТА І ГЕОГРАФА:

## гісторыя сяброўства Максіма Багдановіча і Аркадзя Смоліча

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча захоўваецца самы вялікі ў Беларусі архіў Аркадзя Смоліча, які налічвае каля пяцісот адзінак захавання. Гэта перапіска, успаміны жонкі Алесі Смоліч пад назвай «Зорка», даведкі аб рэабілітацыі, асабістыя дакументы А. Смоліча, рукапісы навуковых прац (у тым ліку непублікаваныя), карты, фотаздымкі А. Смоліча з экспедыцый па Беларусі, асабістыя рэчы. Прадметы, звязаныя з асобай і дзейнасцю А. Смоліча, паступалі ў фонды музея на працягу многіх гадоў.

Першыя паступленні з сямейнага архіва Смолічаў трапілі ў 1989 годзе. Рыхтавалася першая сталая экспазіцыя музея і «Беларускай хаткі». Дачка Аркадзя Смоліча — Ганна Аркадзеўна Смоліч перадала музею калекцыю сямейных фотаздымкаў, а ў 1992 г. ад яе паступіла вышываная кашуля, якая належала вучонаму.


А. Смоліч. Мінск, 1919 год.

У 2011 годзе ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча да 120- годдзя з дня нараджэння славутага географа была адкрыта дакументальная выстаўка «Чалавек — крыніца сілы», падрыхтаваная сумесна з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва. Дзякуючы асвятленню гэтай падзеі ў інтэрнэт-рэсурсах, пра яе даведаўся ўнук вучонага (сын дачкі Ганны) Віталій Бертгольдавіч Маос, які жыве ва Украіне. З удзячнасці за памяць пра вялікага дзеда ён вырашыў перадаць у фонды музея дакументальны архіў А. Смоліча, які ўсё жыццё зберагала сям'я. Асабіста наведаўшы Мінск, В. Маос прывёз каштоўныя дакументы, а ў 2012 годзе супрацоўнікі музея з Украіны даставілі другую частку архіва. На сёння дакументы апісаны, сістэматызаваны і могуць выдавацца даследчыкам для аналізу і навуковага выкарыстання.

Сярод фотаздымкаў, пасведчанняў, лістоў і дакументаў асабістага характару неабходна вылучыць рукапісы навуковых прац А. Смоліча, многія з якіх не публікаваліся. Большасць з іх і сёння застаюцца ўнікальнымі і актуальнымі, а менавіта: «Дзённік экспедыцыі для доследу палескае гаспадаркі. 1927 год», «Сельскагаспадарчае раёнаванне БССР», «Умовы развіцця сельскай гаспадаркі БССР», «Класіфікацыя геаграфічная тыпаў сельскай гаспадаркі, з распрацаванымі табліцамі», «Эканамічнае становішча Беларусі перад вайной і рэвалюцыяй (1920-я гг.)», «Справаздача аб навукова-даследчай экспедыцыі па Беларусі» ды інш. У дадатак да пералічаных навуковых прац у архіў паступіла вялікая колькасць фотаздымкаў з разнастайных экспедыцый з удзелам географа. Таксама былі перададзены працы, якія вучоны пісаў у высылцы, як вынік даследаванняў іншай геаграфічнай прасторы, у якой апынуўся: «Зона лиственных лесов и займищ Западной Сибири на меридиане г. Ишима», «Дневник путешествия по меридиану г. Ишима на север до истоков р. Ик Малый».

Гэты каштоўны збор трапіў у музей Максіма Багдановіча невыпадкова. Музей — адзін з самых важных цэнтраў па вывучэнні і даследаванні жыцця і дзейнасці Максіма Багдановіча, а таксама яго акружэння. А ўвага асобе Аркадзя Смоліча надаецца ў сувязі з тым, што менавіта ён стаў лепшым сябрам паэта, калі М. Багдановіч вярнуўся на Радзіму ў 1916 годзе.

У 1930 г. А. Смоліч быў арыштаваны па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі і ў 1931 г. высланы ў Пермскі край. У 1938 г., у выніку другога арышту, быў асуджаны да найвышэйшай меры пакарання. Доўгі час яго імя ў савецкім друку, нягледзячы нават на рэабілітацыю, было пад забаронай. Адна з першых, хто паступова пачаў вяртаць імя Аркадзя Смоліча з нябыту, — вядомая мемуарыстка і пісьменніца Людвіка Сівіцкая-Войцік (больш вядомая пад псеўданімам Зоська Верас).

У кнізе «Шлях паэта» (зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Мінск, 1975), грунтоўна падрыхтаванай даследчыцай Нінай Ватацы, імя А. Смоліча не згадвалася, а з тэксту, дзе першапачаткова прысутнічала, выкрэслівалася цэнзурай. Да прыкладу, вядомыя ўспаміны згаданай тут Зоські Верас «Пяць месяцаў у Мінску», апублікаваныя ў зборніку, пачынаюцца наступным чынам: «— *У хуткім часе ў Мінск прыедзе Максім Багдановіч! — Калі? — Надоўга? — Што ён піша? — Максім Багдановіч піша, што хоча пабыць у Мінску, у сваім родным горадзе, дыхнуць паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову. Просіць паклапаціцца аб працы для яго, а калі канкрэтна прыедзе, яшчэ напіша або папярэдзіць тэлеграмай*» («Шлях паэта. Успаміны і біяграфічныя матэрыялы пра Максіма Багдановіча / склад. Н.Б. Ватацы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1975). У першакрыніцы тэкст пачынаецца так: «*У хуткім часе ў Менск прыедзе Максім Багдановіч!*» — ***пачулі мы голас А. Смоліча, які ўвайшоў у сталоўку Беларускай хаткі, трымаючы ў руках ліст. Усе прысутныя заварушыліся, пасыпаліся пытанні:*** *"Калі?" "Надоўга?", "Што ён піша?"…*» (З. Верас «Выбраныя творы». Уклад., прадм., камент. Г. Запартыка. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2015).

Такім чынам з тэкстаў выкрэслівалася імя А. Смоліча, хаця, па сведчаннях многіх мінскіх сяброў і знаёмых паэта, менавіта ён з'яўляўся лепшым сябрам Максіма Багдановіча і ўвесь час апекаваўся ім. У многім дзякуючы Зосьцы Верас імя вядомага беларускага вучонага пачало вяртацца, хаця не пра ўсё мемуарыстка мела магчымасць распавядаць і доўгі час сама была вымушана замоўчваць прозвішча чалавека, які меў самае непасрэднае дачыненне да побыту М. Багдановіча ў Мінску.

Менавіта А. Смолічу паэт напісаў ліст, што прыедзе ў Мінск, менавіта ён шукаў для М. Багдановіча працу, менавіта яго першага ўстрывожыў стан здароўя паэта, менавіта ён па просьбе М. Багдановіча ўпершыню публічна ў Беларускай хатцы прачытаў знакаміты верш «Пагоня»…

У Мінску А. Смоліч, З. Верас і М. Багдановіч працавалі разам над стварэннем беларускага лемантара: «*Прадчуваліся ўжо блізкі канец вайны і змены, якія могуць наступіць у жыцці народаў. Мы часта гаварылі аб тым, што, можа, хутка дачакаемся сваіх беларускіх школаў, а кніжак да навукі няма. Лемантары сякія-такія былі, а вось чытанкі пасля лемантара няма. Смоліч запрапанаваў узяцца за апрацоўку гэтакай чытанкі-хрэстаматыі. Складаць яе мы мелі ўтраіх: М. Багдановіч, А. Смоліч і я. Насамперад распрацавалі план. Кніжка мела дзяліцца на 4 часці: 1 — вясна, 2 — лета, 3 — восень, 4 — зіма. Трэба было падбіраць матэрыялы, і працу падзялілі паміж сабой так: М. Багдановіч меў заняцца паэзіяй: падбіраць адпаведныя вершы з беларускай літаратуры, рабіць пераклады і, разумеецца, пісаць самому. А. Смоліч браў на сябе тэмы геаграфічныя і гістарычныя, а таксама пераклады з расейскай мовы, а я тэмы прыродазнаўчыя і пераклады з польскай мовы. Шмат вечароў прасядзелі мы ў сталоўцы ў позніх гадзіны, калі нашыя штодзённыя вячэрнія госці парасходзіліся*» (З. Верас «Выбраныя творы»… С. 119 — 120). Як вядома, працу над лемантаром М. Багдановіч працягваў нават у Ялце, дзе правёў апошнія месяцы свайго жыцця.

У той час, калі Багдановіч прыехаў у Мінск, Аркадзь Смоліч працаваў статыстыкам у Мінскім губернскім земстве. Зосьцы Верас пісаў у Альхоўнікі на Гродзеншчыне (радавы маёнтак сям'і), што адкрыў у Мінску «Аддзел Таварыства помачы ахвярам вайны», але працаваць там няма каму і аддзел існуе пакуль толькі намінальна. Да гэтай справы актыўна далучылася, па прыездзе ў Мінск, менавіта Зоська Верас і стала сапраўднай паплечніцай Аркадзя Смоліча. Пра яго яна заўсёды адгукалася з цеплынёй і захапленнем: «*Смоліч на мае пытанне, спякотную восеньскую суботу. Цёпла, чыста, утульна ў святліцы, дзе ўздзень была сталовая дамашніх абедаў, а цяпер сталы й крэслы, ссунутыя да сценкі. Мы, як вераб'і на дроце, прымасціліся на іх.*

*Што-ж, можа, паспяваем, сабараўшыся? — прапануе Лявіцкі.*

*Але-ж хто пакіруе? — цікавіцца Бядуля.*

*Ну, хіба ўжо я, пакуль знойдзецца хто больш адпаведны. І выходзіў на сярэдзіну пакою Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энэргічнымі рысамі твару, ільняной чупрынай. Дарослыя, усе да аднаго, хто мог ці ня мог спяваць, станавіліся, клікалі нас. <… >*

*У адзін з такіх восеньскіх суботнікаў з'явіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая, сутулая постаць, павольныя рухі, ціхі нізкі голас. Ён быў зусім не падобны да тых фота, што мы знаходзім тут у нашых эмігpацыйных выданнях. Пэргамэнтна бледны твар. Сур'ёзны, спакойна-выпытваючы позірк бліскучых вачэй. Па тэй пашане, якую яму ўдзялялі дарослыя, па той любові, якой яго акружалі Смоліч, Ядвігін Ш., мы разумелі, што гэта вялікі чалавек, і праніkліся глыбокай пашанай да яго."* (Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / уклад. Л. Юрэвіч. Нью-Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1999. С. 115, 117).


Аркадзь Смоліч з жонкай Алесяй. Мінск, 1920 год.

*ці любіць сваю прафесію, адказаў, што любіць настолькі, наколькі яна служыць людзям. Прыроду, праўда, люблю, адчуваў яе хараство і ўмеў вельмі прыгожа, паэтычна апісваць свае ўражанні…*

*Ён любіў працу арганізацыйную. Стараўся быць у кантакце і з Вільняй, і з Петраградам, прымаць удзел у кожнай працы, якая б дзе ні развівалася, напрыклад, у выдаванні аднадзёнак ("Раніца"), пісаў крытыку на "Сон на кургане" і адначасна "Эканамічныя нарысы" для "Лучынкі". Энергія і шырыня запраектаваных працы проста дзівілі. У адным з лістоў да мяне піша: "Трэба паспяшаць пашырэнне беларускага руху на Усход. Арганізм толькі тады здаровым будзе, калі ўсе яго часткі роўна будуць працаваць. Уся Магілёўшчына, усходняя Меншчына ды Віцебшчына, урэшце Смаленшчына, Чарнігаўшчына ляжаць незакранутымі абшарамі. Там патрэбная газета — у Магілёве"* (З. Верас «Выбраныя творы»… С. 90-91). Зоська Верас падкрэслівала, што такая чулая, добрая душа, як у Аркадзя Смоліча, не магла не прывязацца да Максіма Багдановіча і наадварот. У сваіх успамінах і ў многіх лістах мемуарыстка заўсёды падкрэслівала, што яны былі лепшымі сябрамі і што нават сына свайго А. Смоліч назваў у гонар памерлага сябра — Максімам.

У многім дзякуючы клубу беларускай інтэлігенцыі «Беларуская хатка» захаваліся ўспаміны пра самыя цікавыя і значныя факты з жыцця многіх беларускіх дзеячоў, якія з'яўляліся яго сябрамі, у тым ліку пра Максіма Багдановіча і Аркадзя Смоліча. Вось як апісвала некаторыя падзеі Апалонія Радкевіч, якая неаднойчы прыходзіла на вечарыны ў Беларускую хатку: «*Ну вось. Сабраліся першы раз у*

На вялікі жаль, успамінаў пра М. Багдановіча Аркадзь Смоліч не пакінуў, хаця верагоднасць іх існавання ўсё ж ёсць. Ён ніколі не падкрэсліваў сваё асаблівае месца ў біяграфіі паэта, але рабіў усё магчымае дзеля захавання яго памяці. Менавіта А. Смоліч быў адказным рэдактарам збору твораў М. Багдановіча ў двух тамах, выдадзенага ў 1927 — 928 гг. Цікавым у гэтым сэнсе паказанні А. Смоліча, дадзеныя падчас арышту 1930 года: «*Им (М. Богдановичам. —* **М. З.**) *руководили приблизительно те же мотивы, что и мною, и он приехал из Ярославля доживать в Минске свои последние месяцы (он был в чахотке). С ним был я очень дружен, и он несомненно оказал на меня большое влияние. По своим взглядам он был анархист-индивидуалист с яркой националистической окраской. В национальной политике, которой он тогда руководил, он твердо стоял на точке зрения коалиции с буржуазией. Эту точку зрения он и проводил в жизнь во время своей работы в Минске. Я же занялся главным образом культурной работой, подготавливал театр и хор, но организовывал также социалистические кружки молодежи*». (Сьведчаньні арыштаў А. Смоліча // Полацак. — 1994. — № 2. — С. 31).

Улічваючы абставіны, пры якіх была выказана такая характарыстыка палітычных поглядаў Максіма Багдановіча, нельга прымаць іх за абсалютную праўду. Іронія лёсу ў тым, што гэта адзінае пісьмовае сведчанне самаго А. Смоліча (то бок запісанае з яго слоў) пра сяброўства з беларускім паэтам.

**Марына ЗАПАРТЫКА**

**Фота з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.**

# ЦІ САПРАЎДЫ ХАЛОДНЫ ДЗЕНЬ?

**Напэўна, вы памятаеце правакацыйны нямецкі лозунг, які вызначаў ролю жанчыны: «Kinder, Küche, Kirche» (дзеці, кухня, царква). Гэты выраз прыпісваецца кайзеру Вільгельму II і супрацьпастаўляецца «мужчынскім тром К» — «Kaiser, Krieg, Kanonen» (імператар, вайна, гарматы). На шчасце, у наш час пол перастаў быць лёсам: жанчыны пераадолелі межы, наканаваныя ім грамадствам, і выйшлі на шырокі прастор, у тым ліку і літаратурны.**

Так, жанчыны распавядаюць пра самiх сябе, свае праблемы, душэўныя ўзлёты i падзеннi, сумненнi i страты, філасофскія i маральныя шуканнi. Аднак найчасцей яны гавораць усё ж такі пра каханне, складаныя ўзаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай, радасці і трагедыі, сустрэчы і расстанні.

Не выключэнне — Таіса Супрановіч. Яе персанажы — людзі, чыё жыццё па пэўных прычынах істотна мяняецца. Мала хто з яе герояў быў на працягу ўсяго жыцця шчаслівым чалавекам, але ўсе яны знаходзяць найбольш зручны для сябе спосаб існавання ў гэтым свеце, становішча, якое дазваляе ў новым святле ўбачыць плюсы і мінусы свайго жыцця. А нядаўна пабачыла свет новая кніга пісьменніцы «Халодны дзень і цёплы вечар». У зборнік увайшлі тры аповесці і пяць апавяданняў, некаторыя з якіх друкаваліся раней у часопісах «Полымя» і «Маладосць».

Як заўважае ў прадмове да кнігі «Халодны дзень і цёплы вечар» Аляксей Рагуля, кандыдат філалагічных навук, культуролаг, прафесар этналогіі і мастацтва БДУКіМ, «глебай, з якой прабіваецца “мысленнае дрэва” Таісы Супрановіч, з’яўляецца вопыт жыццядзеяння беларускага духу — таго людства ў наваградскім Панямонні, у асяроддзі якога прайшло маленства і юнацтва пісьменніцы».

Згадаю, што нарадзілася будучая пісьменніца ў 1956 годзе ў вёсцы Чарэшля Навагрудскага раёна ў сям’і настаўнікаў. Пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры 25 гадоў працавала загадчыцай дзіцячай бібліятэкі ў Навагрудку. У 2005 годзе пераехала ў Мінск, дзе працавала ў Міністэрстве адукацыі, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, цяпер — у Нацыянальнай бібліятэцы. Таіса Супрановіч (Гурко) — вядучы бібліёграф НДА бібліяграфіі НББ, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар трох кніг: «Мужчыны і жанчыны», «Матчын зарок» і «Халодны дзень і цёплы вечар». Акрамя таго, шмат друкуецца ў беларускамоўных газетах і часопісах.

Заканамернае пытанне — як жа нараджаецца кніга, на каго арыентуецца аўтар, раскрываючы ў творах сваю душу? «Я пішу ў першую чаргу для дарослых і лічу, што мая аўдыторыя — гэта адукаваныя людзі, якія ведаюць гісторыю Бацькаўшчыны і перажываюць за яе, інакш кажучы, “сэрцам адданыя роднай зямлі”, — кажа Таіса Супрановіч. — Між іншым, акрамя Беларусі, да мяне прыходзяць водгукі з Украіны, Расіі (аж з Сібіры, між іншым), нават Англіі. Здаецца, сюжэты простыя, але якая




за імі стаіць велізарная работа! Звычайна як пішуць жанчыны? Лірычна, сентыментальна, надаючы звыш увагі апісанню прыроды, пераплятаючы ападанне лісця са згасаннем пачуццяў. Я ж — чалавек дзеяння і ў жыцці, і ў творчасці. Сваю энергічнасць я перадаю праз нарастанне сюжэта, яскрава абрысаваную сюжэтную лінію кожнага з герояў. Так, між іншым, я пазбягаю маралізатарства, бо вельмі не люблю чытаць мараль. Ёсць толькі мае разважанні, і кожны чытач павінен сам рабіць высновы».

…Калі бярэш чытаць жаночую прозу, мімаволі чакаеш: зараз нібы ўвачавідкі паўстане перада мной шчаслівае каханне, прыгожы прынц, неабдымнае мора радасных перажыванняў і абавязковае «жылі яны доўга і шчасліва…». Аднак зусім адваротная карціна малюецца ў аповесцях і апавяданнях пісьменніцы: «За ўсё сваё жыццё я пабачыла шмат жаночых лёсаў, і далёка не кожны з іх быў шчаслівым. Дык чаму я павінна ствараць шчасце там, дзе яго амаль і не было? Ведаеце гэты выраз — “альбо хороша, альбо нічога”? Дык вось у ім ёсць яшчэ працяг — “альбо праўду”. Вось я і гавару праўду: беларускія жанчыны цягнуць цяжкі жыццёвы воз, гнуцца, але не ламаюцца. Колькі б ударaў ні наносіў ім лёс, яны працягваюць і жыць, і верыць, і спадзявацца, і зноў кахаць. Калі мае гераіні трапляюць у жорсткія ціскі “пракруставa ложа”, яны не скараюцца, не згінаюцца, а спакойна і рупліва працуюць, гадуюць дзяцей, увогуле жывуць годна. Але я на правах аўтаркі, так кажучы, *“Deus ex machine”*, усё ж імкнуся да хэпі-энду, гэта ўвогуле мае светаўспрыманне. Ведаеце, можна са смакам апісваць жудасць, жорсткасць, людзі нібы на сябе прымераць гэтыя абставіны, у якіх апынуліся героі, перажывуць асабіста ўвесь негатыў. Але паўстае пытанне: як жа аўтару самому выйсці з гэтай цемры і вывесці за сабою чытача? Як перайсці на жыццесцвярджальныя рэйкі? Я ўжо не гавару пра тое, што значна лягчэй апісваць жахі, чым, напрыклад, насмяшыць людзей. А я свайго чытача шкадую, таму і пішу хэпі-энды».

І ўсё ж, як сцвярджае А. Рагуля, «Таіса Супрановіч у сучаснай літаратуры бадай што адзіная аўтарка, якой выпала на долю ўвесці ў літаратуру сучасныя мадыфікацыі асацыяльнага тыпажу, раней увасобленыя ў вобразах Машэкі і Бушмара». І дадае: «У прозе Таісы Супрановіч паказана, як нарастае вал здзічэння і выраджэння ў атмасферы казённага афіцыёзу. У савецкім соцыуме адміністрацыйная кар’ера была адзінай магчымасцю выбрацца з сацыяльная ямы і дапаўзці хоць бы да сярэдніх паверхаў партыйна-каставай іерархіі. Прасоўванне па гэтай вертыкалі суправаджалася не толькі стратай роднай мовы, але і пачуцця роднасці з блізкімі. На вышэйшых паверхах свая душа была таксама лішнім грузам. Рэгулятывам быў халодны кар’ерысцкі разлік».

Як жа тлумачыць сама пісьменніца сваю творчую знаходку? «Я ўвогуле чалавек цікаўны, — прызнаецца Таіса Супрановіч. — За доўгі час працы загадчыцай бібліятэкі я сустрэла шмат людзей, пачула мноства жыццёвых гісторый, убачыла шчаслівыя і нешчаслівыя шлюбы, адносіны ў сям’і, розныя сітуацыі, у якія трапляюць героі ў паўсядзённым жыцці. І ўпэўнілася, што ніхто не прыдумае лепш за само жыццё. Таму мне заставалася толькі браць ужо гатовы, «жывы» чалавечы характар з усімі яго ўчынкамі, прадказальнымі рэакцыямі і пераносіць яго ў твор. І ўжо не мая віна, што яны паўстаюць такімі жорсткімі, бязлітаснымі, сацыяльнай абалонкай прыкрываючы ампутацыю душы».

Напрыканцы хацелася б прывесці слушную выснову Аляксея Рагулі, што «карціны сучаснага быцця ў прозе Таісы Супрановіч прасякнуты глыбокім роздумам і чысцінёй эмацыянальнага перажывання, часам гораснага, але заўсёды жыццесцвярджальнага. Ідучы ў рэчышчы традыцый беларускай класічнай прозы, пісьменніца адкрывае ў душы беларускага этнасу новыя пласты жыццяздольнасці. Яе творы вызначаюць вектар людскасці ў складаных умовах сучаснасці». Адным словам, вера ў чалавека, у яго людскасць — вось тое цяпло, якое саграе ў любы халодны дзень.

**Алена ДЗЯШКО**

# ПАД МАСКАЙ ХУЛІГАНА

Зборнік вершаў Віктара Жыбуля «Дзяцел і дупло» летась выйшаў у кнігарні «Галіяфы». Як сцвярджае сам аўтар, на старонках кнігі няма аніякіх спасылак ні да дзятла, ні да дупла. Дзіўна, але назва, якая ўвогуле не адпавядае зместу твора, найлепш падкрэслівае яго сутнасць. Супярэчлівае і правакацыйнае, непрадказальнае ад вокладкі да апошняй старонкі выданне прыцягвае ўвагу і заклікае да спецыфічнай інтэлектуальнай гульні. Калі мець на ўвазе, што свет — вар’ят і людзі ў ім вар’яты, паэзія Віктара Жыбуля ператвараецца ў своеасаблівы рэалізм нашага стагоддзя.

Вершам Жыбуля ўласцівая іронія ў яе постмадэрнісцкім разуменні. Яна не мэтанакіраваная, не высмейвае канкрэтныя заганы чалавечай натуры ці несправядлівасць жыцця; гэта татальная іронія ўсяго з усім, якая не дае літасці ні лірычным героям, ні чытачу, ні самому аўтару. Мова зборніка часам ператвараецца ў гульню словаў, дзе весела ды аптымістычна адлюстроўваецца хаос чалавечага існавання: «Усё жыццё — Сенегал! / Усё жыццё — сенавал! / Усё жыццё — самавар! / Усё жыццё — самазвал!». Гіпербалізацыя, давядзенне да абсурду і «чорны» гумар гарманічна суіснуюць на старонках кнігі, бо «рэшткі былой расчлянёнкі» тут «склейваюцца ў калажы», а за негатыўным досведам выстройваюцца «чэргі, чэргі, чэргі».

Вершы са зборніка «Дзяцел і дупло» знаёмыя многім прыхільнікам паэта па выступах творцы на слэмах і паэтычна-музычных вечарынах. Але побач з пазнавальнасцю хаваецца небяспека: некаторыя паэтычныя творы цяжка ўспрымаць без звыклай дэкламацыі аўтара. Напрыклад, уражанне ад такіх вершаў, як «Кавалер Валерка», з яго гукавымі пераходамі кшталту «НасцяНасцяНасцяНаСцянаСцянаСцяна», ці «Ультыматум», дзе маўленне набліжаецца да дзіцячай картавасці («Мой ыот набіты фэкаляднаю ватай / Хто не схаваўся — я не вінаваты»), на паперы саступае яскравасці жывога выканання. Асоба аўтара, а больш дакладна аўтарскі імідж, накіроўвае разуменне вершаў у патрэбнае рэчышча. Зборніку не хапае аўтарскага перфомансу, але выдаўцы выйшлі з сітуацыі праз змяшчэнне адпаведных ілюстрацый.

На старонках «Дзятла і дупла» паэзія перамяжоўваецца з фотаздымкамі і калажамі з усялякіх паэтычных выступаў Віктара Жыбуля. Яго можна пабачыць у розных амплуа: з мікрафонам, у процівагазе, у незвычайных і смешных касцюмах — адным словам, такім, як патрабуе гарэзлівая атмасфера кнігі.

Прэзентацыя зборніка, што адбылася ў межах акцыі MOVABOX, вельмі пасавала яго зместу, бо вершы спадара Жыбуля найлепш спалучаюцца з «жывым» дзеяннем. У MOVABOX былі закладзеныя пэўныя рэчы, што адпавядалі агульнай канцэпцыі кнігі. Праз пернік у выглядзе талона (зварот да серыі вершаў пра кантралёраў), кулёк семак, чалавечка на кнопачцы, набор стыкераў, трафарэт са словам «Адхуліганена» ды значок «Выдатнік унутранага хуліганства» можна літаральна дакрануцца да аўтарскай задумы, перавесці паэзію ў рэчаіснасць. У зборніку (як і ва ўсіх паэтычных выступах) Віктар Жыбуль апранае маску хулігана, праз якую кантактуе з чытачамі. У аўтарскім персанажы сумяшчаюцца, на першы погляд, несумяшчальныя рэчы: ён адначасова і блазан, і філосаф. Часам цяжка не згубіцца паміж рэальнасцю ды іроніяй, бо побач з відавочна філасофскімі вершамі (прыкладам, «Дзённік Максіма Багдановіча») суіснуюць правакацыйныя і неадназначныя творы.

Можна прыгожа сказаць, што ў кнізе «Дзяцел і дупло» ўзнімаюцца пытанні маральнага стану ды ўнутранага свету чалавека, праблемы творцы і творчасці, жыцця ўмоўнага і сапраўднага. Але пра паэзію Віктара Жыбуля нельга пісаць прыгожа ды вытанчана: здаецца, гэта парушыць усю аўтарскую канцэпцыю, бо галоўны герой зборніка — хуліган, што жыве ўнутры нават самага правільнага ды педантычнага чалавека. Гэты хуліган разважлівы, праз выклік і эпатаж шукае шляхі да ісціны. За нечаканымі радкамі адчуваецца дзіцячая чысціня, наіўны позірк хлопчыка, які бачыць вакол недасканалы свет і адмаўляецца гуляць па яго правілах, бо прытрымлівацца правілаў — не значыць жыць сумленна. Сваім з’яўленнем хуліган кідае выклік будзённасці, падзяляе рэчаіснасць на існаванне па інерцыі і сапраўднае жыццё.




Побач з хлопцам-хуліганам па зборніку крочыць «дзяўчына цяжкіх паводзінаў», правільная да крывадушнасці. Дарэчы, аўтар здзекуецца з крывадушнікаў, гучна нагадвае пра звычайныя і неад’емныя чалавечыя патрэбы:

*О, дзяўчына цяжкіх паводзінаў!*
*Мы ў палон забярэм цябе хітрасцю,*
*Мы прывяжам цябе да зэдліка*
*І прымусім глядзець парнаграфію,*
*Каб ты ведала, каб ты бачыла,*
*Як гірлянды лістоты фігавай*
*Ападаюць на дол з бессаромнасцю,*
*Агаляючы ўсё навакольнае.*

Мова паэзіі Віктара Жыбуля актыўна звяртаецца да зніжанай лексікі. Ён не грэбуе выразамі «адкінуў канькі», «прысабачыў правады», «лясне па карку», «поўзаю ракам», «скапыціўся мастак», а таксама перамяжае радкі слэнгавымі словамі кшталту «бухнуў», «фігня», «адмарозак», «замочыць». І калі выкарыстанне такой лексікі можа абразіць пачуцці занадта цнатлівых чытачоў, то абразы для паэзіі тут няма: усе выказванні матываваныя з пункту гледжання сэнсу ды гучання верша і не маюць на ўвазе таннага эпатажу.

Падчас знаёмства са зборнікам «Дзяцел і дупло» не трэба шукаць адказаў на адвечнае пытанне «Што хацеў сказаць аўтар?». Лепшае, што можна зрабіць, — прыслухацца да ўласных адчуванняў і нарэшце асэнсаваць, што ж кажа асабісты ўнутраны хуліган.

**Дар’я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# КРЫЖ І СЛОВА

Рэлігійныя дзеячы на Беларусі нярэдка былі яшчэ й пісьменнікамі-палемістамі. Да таго змушала як уласна праца, так і варункі, у якіх даводзілася жыць і несці сваё слова. Сярод іх былі неардынарныя асобы, дзейнасць якіх дагэтуль выклікае спрэчкі, але творы пакідаюць пытанні для развагі.

Напрыклад, узор літаратурнага красамоўства і філасофска-рэлігійнай думкі Беларусі — «Казанні і павучанні» Іасафата Кунцэвіча. У іх майстар слова і прапаведнік вучыў пра чатыры фундаментальныя «цноты», якія ўласцівыя сапраўдным хрысціянам — мужнасць, справядлівасць, міласць і спраўнасць. Ён прапагандаваў думку пра існаванне сямі цялесных і сямі духоўных грахоў, ад якіх сапраўдныя вернікі павінны ўсяляк ухіляцца. І. Кунцэвіч гэтаксама дэталёва раскрыў сутнасць сямі дарункаў Святога Духа.

Асаблівае месца ў творчай спадчыне І. Кунцэвіча займае яго «Катэхізіс», напісаны ў дыялагічнай форме на старабеларускай мове. У творы найперш акрэслены чатыры галоўныя абавязкі сапраўднага хрысціяніна: дакладна ведаць Сімвал веры, прыносіць малітвы Госпаду Богу, перадусім «Ойча наш», яскрава ўсведамляць, што належыць чыніць, а чаго варта сцерагчыся, нарэшце, здабываць Божую ласку старанным выкананнем царкоўных таямніцаў і добрымі справамі.

На думку І. Кунцэвіча, кожны вернік мусіць прызнаваць дванаццаць асноўных палажэнняў Сімвала веры. Першае — верыць, што Бог з'яўляецца стваральнікам неба і зямлі. Другое — згаджацца з тым, што Ісус Хрыстос з'яўляецца Сынам Божым і Госпадам. Трэцяе — без ваганняў прызнаваць, што Ісус Хрыстос зачаты ад Святога Духа і народжаны Дзевай Марыяй. Чацвёртае — усведамляць пакуты і пахаванне Сына Божага. Пятае — пагаджацца з тым, што Ісус Хрыстос сыходзіў у Ад і ўваскрос з мёртвых. Шостае — верыць у тое, што Сын Божы ўзнёсся на нябёсы і сядзіць праваруч ад Усётрымальніка. Сёмае — чакаць Ісуса Хрыста, які зноў прыйдзе з нябёсаў і будзе судзіць жывых і мёртвых. Восьмае — верыць у невычэрпную моц Святога Духа. Дзявятае — верыць у Святую Саборную царкву і магчымасць гутаркі са святымі. Дзясятае — абавязкова пагаджацца з тым, што ад грахоў можна пазбавіцца. Адзінаццатае — прызнаваць уваскрэсенне плоці. Дванаццатае — верыць у вечнае жыццё.

Ключавы раздзел «Катэхізіса» І. Кунцэвіча — вучэнне аб 10 запаветах Божых. Прапаведнік тлумачыў, як належыць выконваць Божыя пастановы, а таксама папярэджваў і пагражаў страшэннымі пакутамі іх парушальнікам.

Асаблівую ўвагу І. Кунцэвіч звяртаў на запаветы, якія вызначалі паводзіны і ўчынкі людзей. Так, ён вельмі дэталёва вытлумачыў сэнс чацвёртага запавета. У ім адзначалася неабходнасць шанавання дзецьмі сваіх бацькоў. І. Кунцэвіч значна пашырыў семантыку гэтага запавета. Паводле яго разумення, ён прадугледжвае не толькі ўзаемаадносіны паміж дзецьмі і іх бацькамі, але і рэгламентуе дачыненні між вернікамі і духоўнымі асобамі, урадоўцамі і звычайнымі грамадзянамі, сталымі людзьмі і падлеткамі.

Вельмі цяжкім грахом І. Кунцэвіч слушна лічыў забойства і прычыненне фізічнай шкоды іншаму чалавеку. Гэтаму прысвечаныя яго каментары да пятага запавета. Паводле слоў пісьменніка, ніхто з людзей не павінны рабіць зло іншаму чалавеку.

Аўтар «Катэхізіса» абгрунтоўваў неабходнасць сціпласці і «цялеснай чысціні». Ён гнеўна асуджаў распуснікаў. Паводле яго слоў, шлях да выратавання — аскетычны лад жыцця, стрыманасць ва ўжыванні ежы і напояў. Пісьменнік і прапаведнік раіў выбіраць у якасці сяброў добрых людзей, пазбягаць брыдкаслоўя, часцей хадзіць да споведзі.

І. Кунцэвіч заклікаў ніколі не квапіцца на маёмасць іншых людзей, не браць чужых рэчаў, ні пры якіх абставінах не красці таго, што належала іншаму чалавеку. Пісьменнік патрабаваў шчыра выконваць восьмы запавет, не чыніць паклёпу іншым людзям, нікога не абражаць і ніколі не хлусіць.

Сямейная вернасць, на думку асветніка, з'яўляецца зарукай шчаслівага жыцця. Належыць берагчы сям'ю, не здраджваць жонцы і дзецям, малітвай стрымлівацца ад спакус і «дзеля зберажэння сэрца» не даваць волі пачуццям.


«Пропаведзь Іасафата Кунцэвіча ў Беларусі», Ілья Рэпін.

Паводле патрабавання І. Кунцэвіча, кожны вернік павінны строга выконваць пяць царкоўных правілаў: старанна наведваць службы ў святочныя дні, пасціцца і стрымлівацца ад ужывання забароненай ежы, спавядацца ў грахах перад духоўнымі асобамі, прычашчацца на Вялікдзень, плаціць дзесяціну на царкоўныя патрэбы.

Выкананне ўсталяваных абрадаў і цырымоній, вучыў І. Кунцэвіч, далучае чалавека да разумення сутнасці веры. Ён настойліва падкрэсліваў, што дзеля дасягнення дасканалага жыцця і Нябеснага Царства належыць чыніць міласэрныя ўчынкі: накарміць і напаіць галоднага, падзяліцца адзеннем з неапранутым, выкупіць вязня, наведаць і падтрымаць хворага, даць прытулак падарожніку, пахаваць памерлага.

Асабліва каштоўныя парады І. Кунцэвіча накіраваныя на ўнутранае ўдасканаленне асобы і паляпшэнне дачыненняў паміж людзьмі. Каб захаваць чалавечую годнасць, даводзіў ён, варта здзяйсняць высакародныя духоўныя справы — адводзіць грэшнага ад граху, навучыць правільным паводзінам раз'юшанага і нястрыманага, даць добрыя парады таму, хто знаходзіцца ў роспачы і адчаі, маліцца Богу за бліжняга, суцешыць самотнага, сцішана зносіць крыўду, не трымаць у сэрцы помсты за абразы і знявагу.

Каштоўнымі для разумення творчага метаду І. Кунцэвіча з'яўляюцца яго «Правілы для прэсвітараў». У іх аўтар выказаў патрабаванне, каб святары ўласным прыкладам навучалі людзей, служылі для ўсіх добрым узорам: *«Священници мают прикладом живота своего побожности людей учити, бо живот побожный священический — ест казаннем потужным людем простым»*.

Літаратурным помнікам і адначасова рарытэтнай гістарычнай крыніцай з'яўляецца эпісталярны твор І. Кунцэвіча «Ліст да канцлера Льва Сапегі» (21 студзеня 1621 г.). У ім пісьменнік-палеміст прапаноўваў аўтарытэтнаму ў Княстве дзяржаўнаму дзеячу не ісці на неапраўданыя кампрамісы з «схізматыкамі» (праваслаўнымі). І. Кунцэвіч заклікаў урадоўцаў прадухіліць рэгулярныя ўмяшанні збоку ў царкоўныя справы Вялікага Княства Літоўскага. Каб давесці слушнасць уласнай пазіцыі і прадухіліць магчымыя памылкі, І. Кунцэвіч у «Лісце да канцлера Льва Сапегі» апеляваў да гісторыі. Ён падаў насычаны дэталямі гістарычны сюжэт пра пераход у 1460 г. Ноўгарада Вялікага пад уладу вялікага князя Казіміра Ягайлавіча і пра падпарадкаванне ноўгарадскіх уладыкаў духоўнай уладзе кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя, прызначанага на пасаду Папам Рымскім. Пісьменнік распавёў пра жорсткую расправу з наўгародцамі, учыненую царом Іванам Васільевічам, «дзедам Тырана», за зроблены імі выбар на карысць дачыненняў з Вялікім Княствам Літоўскім.

Значнае месца ў творчай спадчыне І. Кунцэвіча займае «Ліст да мітрапаліта Язэпа Вельяміна-Руцкага» (1622), у якім ён з абурэннем пісаў пра інтрыгі полацкіх і магілёўскіх месцічаў, што не жадалі прызнаваць яго духоўнай улады.

Іасафат Кунцэвіч многае паспеў за 43 гады жыцця. Займаў пасады ігумена Быценскага, Жыровіцкага і Віленскага Троіцкага манастыроў. У 1618 годзе стаў полацкім, віцебскім і мсціслаўскім уніяцкім архіепіскапам. Ён лічыў, што тагачасныя маскоўскія валадары выкарыстоўваюць праваслаўных святароў ВКЛ дзеля ўласных палітычных мэтаў, указваў на пагрозы суверэнітэту і незалежнасці краіны. 22 сакавіка 1619 года Жыгімонт III Ваза выдаў прывілей у абарону кансалідацыйных намаганняў архіепіскапа. У ім ён рэзка асудзіў учынак магілёўскіх духоўных асоб і гараджан праваслаўнага веравызнання за тое, што яны арганізавалі ўзброенае супраціўленне І. Кунцэвічу, не дазволілі яму наведаць Магілёў. Манарх загадаў стварыць камісію для вывучэння справы і пакараць смерцю галоўных завадатараў паўстання. У пастанове прадпісвалася неадкладна перадаць літаральна ўсе магілёўскія цэрквы і манастыры, з усёй іх маёмасцю, у падпарадкаванне архіепіскапа І. Кунцэвіча. Жыхарам Магілёва забаранялася ўмешвацца ў царкоўныя справы, а тым болей — браць у рукі зброю для вырашэння міжканфесійных дачыненняў.

20 лістапада 1619 года Жыгімонт III Ваза, у адказ на зварот да яго І. Кунцэвіча, зноў накіраваў прадпісанне жыхарам Магілёва. У ім манарх строга загадваў магілёўцам не займацца супрацьпраўнымі дзеяннямі — спыніць бунты, узаемныя пагрозы і незаконныя сходы. Але пазбегнуць трагедыі не ўдалося. У 1623 годзе полацкі, віцебскі і мсціслаўскі ўніяцкі архіепіскап І. Кунцэвіч быў забіты ў Віцебску.

**Іван САВЕРЧАНКА**

**Дарэчы**

• **Непамяркоўнасць Іасафата Кунцэвіча выклікала бурны пратэст з боку праваслаўных. Асуджалі святара таксама ўніяты і католікі, у тым ліку сам канцлер Леў Сапега пісаў яму лісты з перасцярогамі. Так, у лісце ад 22 сакавіка 1621 года ён піша: *«Вы Вашымі неразважнымі гвалтамі падбухторылі і, скажу, прымусілі народ рускі да адпору і зламання ўчыненае яго каралеўскай міласці прысягі»*.**

# Воблакам над Бесяддзю...

Рэгіянальны фестываль паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг» на Касцюкоўшчыне прайшоў сёлета ў 4 раз пад знакам 60-годдзя з дня нараджэння паэта Алеся Пісьмянкова.



Алесь Пісьмянкоў рана сышоў з жыцця, у 47 гадоў, але на радзіме яго помняць і шануюць. Цёпла і пранікнёна казалі пра свайго песняра жыхары вёскі Бялынкавічы, дзе нарадзіўся паэт. Для Ніны Бялугінай Алесь быў яшчэ і сваяком. Яго бабуля і яе маці былі стрыечнымі сёстрамі, мелі агульнае прозвішча Ніжнікавы. «Я старэйшая за Алеся, — кажа жанчына. — Блізкіх стасункаў паміж намі не было, але мы заўсёды аднолькава любілі вёску, тутэйшыя краявіды, традыцыі і спевы нашых бабуль».

А яшчэ Алесь Пісьмянкоў самааддана любіў родную мову. Яго сябар Аляксандр Масальскі ўзгадвае:

— Алесь заўсёды размаўляў са мной па-беларуску, і я спытаўся ў яго, ці заўсёды ён карыстаецца гэтай мовай. «Я не толькі размаўляю, я на гэтай мове думаю», — пачуў у адказ. Гэта адбылося за дзень да яго смерці. Была Радаўніца, і мы сустрэліся на могілках.

На вуліцы Слабадской, якраз насупраць таго самага месца, дзе сёння ляжыць 20-тонны валун з надпісам «Пісьмянкоў луг», стаіць дом, дзе нарадзіўся паэт. На жаль, сёння там жывуць іншыя людзі. Бацькі памерлі яшчэ раней, хутка за імі пайшоў і Алесь. Брат Мікалай неўзабаве прадаў бацькоўскую хату.

Але, кажуць, у 2011 годзе, калі тут упершыню ладзілі паэтычнае свята, над Бесяддзю раптоўна з'явілася воблака ў выглядзе падковы, што нагадвала літару «П», а потым яна пераўтварылася ў «А». Быццам нейкая невядомая сіла нагадала пра адзін з самых пранікнёных і лірычных твораў Алеся Пісьмянкова: «Ён ранкам падкову / знайшоў у расе, / шчаслівчык, / адораны лёсам, / І кожны падумаў: / дамоў панясе! / А ён — шпурлянуў у нябёсы: / "Будзем, людзі, шчаслівыя ўсе!"»

Першыя гады галоўнай фестывальнай пляцоўкай быў менавіта Пісьмянкоў луг, але сёлета асноўныя святочныя мерапрыемствы ладзіліся ў Касцюковічах. Да позняга вечара ў цэнтры горада спявалі, чыталі вершы, запрашалі на тэатральныя імпрэзы. У парку дэманстравалі творчасць рамеснікі, бібліятэкі запрашалі ў літаратурныя гасцінныя. Як і ў мінулыя гады, фестываль быў багаты на розныя конкурсы. У намінацыі «Паэзія» не было роўных Раману Валодчанку з Касцюковіч (узроставая катэгорыя ад 13 да 18 гадоў), а таксама Марыі Ярмоленка з Дрыбінскага раёна і Кірылу Какшынцаву з Горак (ад 19 да 24 год). Абсалютным пераможцам сярод аўтараў песень і музыкі стаў жыхар Касцюковіч Віталь Анжанкоў. А лепшы вакальны ансамбль — група «Дэліс» Дзіцячай школы выяўленчых мастацтваў № 2 з Крычава.

Старшыня магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Казека адзначыў высокі ўзровень касцюковіцкіх удзельнікаў: «Не перастаеш здзіўляцца творчаму багаццю і шчодрасці гэтай зямлі. Яна падарыла нам такіх выдатных пісьменнікаў, як Алесь Пісьмянкоў, Іван Чыгрынаў, Аркадзь Куляшоў, Аляксей Русецкі ды іншых. Не здзіўлюся, калі ў хуткім часе з'явяцца годныя іх паслядоўнікі і праславяць гэты прыгожы край новымі імёнамі».

**Нэлі ЗІГУЛЯ,**
**фота аўтара**

Анатоль ЗЭКАЎ



## Лісты да цябе

***

*Я сфатаграфаваў
цябе ў кветках.
А потым,
гледзячы на здымак,
падумаў:
навошта
я рабіў гэта?
Я ж зусім
не хацеў,
каб кветкі
сталі
меней заўважнымі.*

***

*Чаму ты
ні да каго
не раўнуеш мяне
і тым самым
не вымушаеш
нашмат разоў мацней,
чым звычайна,
штодня і штоночы
даказваць
маю вернасць табе?*

***

*Не ведаю,
радую я цябе
ці засмучаю,
калі прызнаюся,
што не зважаю
на дзяўчат,
якія праходзяць міма.
Магчыма,
ты б хацела,
каб я пазіраў на іх
і ад гэтага
яшчэ мацней
туліўся да цябе.*

***

*Калі б раптам
ты сказала,
што адпускаеш мяне
на волю
і жадаеш,
каб я быў шчаслівы
з іншай,
я б хацеў,
каб той іншай
была
зноў-такі ты.*

***

*Нам так мала часу
адведзена
на гэтай зямлі.
А ноч без цябе
яшчэ болей
скараціла яго.*

***

*Я не ўяўляю,
як жыў да цябе.
Я не ўяўляю,
як буду жыць потым.
Я шчаслівы,
што ты са мной сёння.*

Вольга ГАПЕЕВА



## Два сабакі

*сабака самотна ляжыць ля ўвахода
ў паўразбураны дом
сыплецца цэгла
ён сумна адводзіць позірк ад вокнаў
і глядзіць на мяне
я для яго шараговы мінак
і мела б хоць цэлую торбу
адборных і хрусткіх костак
роспач з вачэй не сышла бы ягоных
як не сышла я
ад дома
з якога даўно ўжо выехалі гаспадары
я гляджу на сабаку на дом на цэглу
кволыя кветкі вакол
і бачу ў шыбе адсутнай адсутнасць сябе*

*іхнія целы я вуснамі вывучала
забывалася на ўсіх астатніх што ў мяне былі
на тое што трэба дыхаць і есці
што я не яны
і іншым пачуццям належу
І толькі калі імёны іх блытацца пачыналі
я адчыняла
краны з вадою
вокны наросхрыст
слоўнікі
файлы з докаўскім пашырэннем*

*нават званіла ў амбасады
каб толькі пачуць што ўсё па-ранейшаму і ўсё на сваіх месцах*

*У нашых стасунках не было разумення пра вочы
толькі слых толькі форма
дотык і постаць вага рытм і рухі
націскаў жорсткія пацалункі тонаў абдымкі
ды інтанацыі танцы на самотнай пляцоўцы вакзалаў
з якіх яны ад'язджалі
на шчацэ маёй пакідаючы
памадныя петлі*

*доўга будзе за рот мой трымацца ўсмешка
напэўна так адчувае сябе блазан калі гледачы разышліся
часам няпроста паверыць што вецер —
усяго толькі розніца ціскаў
часам словазлучэнне больш
чым проста злучэнне двух словаў*

***

*вычытаць гэты снег
да канца
каб ніводнай памылкі не засталося
калі будзе ён паміраць
наталяючы смагу эмансіпацыйнай зімы
вынесці на палі птушак чырвоных
каб дзяўблі яны глебу што камянём застрае ў горле
і глытай не глытай
сінія вусны да жыцця не вярнуць мне
або не вернуць,
я — нескладовая перад націскам
а дакладней — назоўнік жаночага роду
з асновай на «г»
і таму калі мяне праскланяць...
— дык Вы будзеце што-небудзь браць?
— ..цукеркі...
множны лік мае свае перавагі
аднак ёсць словы якія нельга пісаць разам
таму ў крайніх выпадках я пішу сябе
праз злучок
трымаючы пад паліто
букеты ружовых і жоўтых
мяккіх знакаў
каб паслабіць тваю цвёрдасць
але
ты не выключэнне
а я не правіла*

***

*зрываюся
лячу
падаю
вочы колюцца аб нешта цёплае —
гэта ты расчытваеш сляды інквізіцый
пад пракіслым сонцам
кастрычніка
дрэвы гуляюць у шахматы
мы гуляем у дрэвы
нехта заўсёды здаецца
першым
раніца перад расстрэлам
сёння мая чарга
крумкачоў пасвіць
на пальцах салёных рабіць
засечкі
калі вочы адмаўляюцца
бачыць
я знаходжу твой голас
навобмацак*

***

*ніколі не думала што так цяжка насіць сукенку
спадніцу абцасы каралі
і не ператварыцца ў калядную ёлку
ці ператварыцца і не звяртаць увагі
гэта сапраўды цяжка
быць упісанай у цела
якое магчыма і не хацела
каб я ў яго была ўпісана
і менавіта так апранала
як апранаю*

*можа яно хацела стаць больш бачным для навакольных
і пэўна на мае кашулі вольнага крою
злуецца
а я злуюся ў адказ
забываючыся што кожная з нас
ці кожны
быў голым народжаны
ці была...*

*у калідоры перад люстэркам
узгадваю вачыма ўсё што з намі было
і яно
глядзіць на мяне панура
бо сёння зноў не тое я апранула*

Алесь КАРАНЕЎСКІ



***

*Салавей ды зязюля праз лес
Льюць прывабныя звоны ад ранку.
І якой тут паверыць з імпрэз?
Што адна, што другая — падманка.*

*Пачынаючы ход кожны дзень
Скрозь таемныя подыхі ночы,
Бачыць рад я, як лашчыцца цень
Са святлом у абдымках і хоча*

*Кожны момант іграць паланэз,
Ганарліва іскрыцца душою.
І ствараю я гэты працэс,
Калі ціша ў сяброўстве са мною.*

*Толькі моцы больш лётаць няма,
Але нехта па хвалі штурхае:
Ці завейная казка-зіма
Альбо сонныя подыхі мая.*

## Мой горад

*Прыкмета мясцовых прастораў —
Туману цудоўны эфект:
Світаннем ахоплены горад,
Раптоўнай маркоты аб'ект.*

*Ён мой… і з народных традыцый
Ні ганьбы, ні зычнай хвалы:
Ён вабіць спакоем сталіцы —
Выразныя явы зямлі.*

*Дзесь пальмы Таіці ды спёка,
Маямі іскрыцца прэстыж.
Мой горад, не бачны здалёку,
Ты разам са светам ляціш.*

*Ты блізкі, як нашы трывогі
Сучаснаму рытму ўздагон,
І гэтаю дымкай разлогі
Радзімы прыгожай, як сон.*

***

*Звычайны дзень на поўны ўздых.
Там, за мяжой, другое сонца?
Лягчэй жыццё? Не чуе слых —
Глядзі шырэй, гартай да донца.*

*Там кожнаму свабодны шлях?
Мо цэны іншыя ў тых крамах?
Квітнеюць ружы на палях?..
Але ж няма там песень мамы…
«Ныцці! — адкажуць. — Вольнасць
тэм!»
Радзіму пакідаюць людзі.
І хай гудуць вятры праблем…
Мы тут былі. Мы ёсць. Мы будзем!*

***

*Зноў зразумець, скуль узялося гэта:
Сузор'і, Месяц, промні ліхтара,
Цяпло якога добрае, як лета…
Чаму ёсць ноч альбо гарыць зара?..*

*І атрымаць адказы на пытанні:
Чаму гудуць чмялі, ляцяць шпакі?
Дзяцінства… поле, лес…
і вандраванні…
І спробы плыць у халадзе ракі.*

*Ад пункта А да пункта Я — нялёгка:
Ці бегма, пешшу, прама, ці наўзбоч.
Дзе светлыня галоўнага «далёка»?
Што будзе там — у гэты дзень
ці ноч?*

*І вось зноў час, калі цяпер я знаю
Адказ на ўсё, — а сэрца ціхі тон!..
І ў гэты раз вясну ў сабе гукаю,
Сябе шукаю ў даўнім сшытку дзён!*

*Так… за вясною думак хваляванні
Нясём, як тое поле быльнягі…
Сумненні — дзесьці розныя спатканні…
Дарогі новыя… і новыя кругі.*

**Памяці Максіма Багдановіча, якога не стала 100 гадоў таму**

# ВОБЮЛІМАНС*



Уладзімір НАВУМОВІЧ

*Урыўкі з эпісталярнага рамана пра каханне Максіма Багдановіча, заснаванага на вершах паэта, успамінах родных і блізкіх, даследаваннях навукоўцаў*

**Частка 1**

## Ліст 4. Мадонны

**Каханая!**

Нарэшце, пры ўсёй маёй таемнасці і нерашучасці, я адважыўся і даслаў у рэдакцыю верш, а з ім і ўвесь цыкл твораў пад адным найменнем «Мадонны». «Мадонны» — цыкл вершаў, прысвечаны табе, каханая. Я не жадаў раскрываць да канца «музыку маёй душы», але пры адным толькі напамінку пра цябе ў мяне кружыцца галава, неспакойна б'ецца сэрца і цяплее ўнутры. На рэдакцыю «Нашай Нівы» пасылаю паэмку «У вёсцы», першую з аддзела «Мадонны», гэты аддзел пасвячаю А. Р. К (так толькі буквы і пастаўце). Цяпер ні для кога не стане сакрэтам, што А. Р. К. — гэта Анна Рафаілаўна Какуева. Пра што верш? Ты памятаеш — у маёй спальні над ложкам вісела рэпрадукцыя адной з сарака дзвюх карцін з выявай Боскай Маці пэндзля выдатнага італьянскага жывапісца *Rafaello Santi* (Рафаэля дэ Санці. — **Аўт.**) «Сікстынская мадонна». Жанчына з дзіцёмнемаўляткам на руках. Яна прыціскае салодзенькі, мяккі камячок да сваіх грудзей. Туліць да сябе маленькага чалавечка, у якога ўсё, як і ў кожнага з нас: ручкі, ножкі, броўкі, вочкі, тварык, цельца. Колькі невымоўнай цеплыні, ласкі, пяшчоты, любавання ў вачах. Што можа быць найдаражэйшае ў нашым навальнічным і няўстойлівым свеце?

Той выпадак адбыўся са мной у вёсцы ў час першага прыезду на Беларусь, у Ракуцёўшчыне, хаця такі малюнак можна было б бачыць у любой вёсцы на маёй Бацькаўшчыне. Я ішоў па вёсцы і бакавым зрокам згледзеў, як маленькі замурзаны хлапчук, раптам спалохаўшыся мяне, здараўеннага кудлатага дзядзькі, на чацвярэньках, хуценька перабіраючы ножкамі і ручкамі, папоўз па траве да сваёй нянькі — хударлявай і таксама з выпацканым тварыкам дзяўчынкі год васьмі. «Я спудзіў хлопчыка». Ды і сам спалохаўся, зніякавеў, хацеў назад вярнуцца, каб абысці і не парушаць спакой і гульні іх. Навошта прывалокся ты ў такі самотны, ціхі край? Каб разглядзець бліжэй? Каб пабудзіць адвечнае сутоннае сну? Пячорын у Тамані? Жылі б сабе і жылі там людзі са спакоем у нагах, руках, з душой зняверанай, але цiхмянай? Што нам да іх? У зачараваным царстве жыццё сваё. Спакон веку беларусы жылі ў сваіх прыродных межах, нібыта загіпнатызаваныя, як у сне, у загерметызаванай прасторы паміж пустак, балот. А тут? Адкуль ты ўзяўся, чалавеча? Спалохаў кволае дзіцятка. «Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сцяжынкі, да нянькі траплячы — так год васьмі дзяўчынкі». Глядзяць з цікаўнасцю і сполахам, надзеяй і любоўю. Занятыя сваёй цяперашняй красой. Упэўненыя ў сабе і моцныя.

*І вось, дабраўшыся, у падолак разам к ёй*
*З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй;*
*І, як схіляецца да ветру верх бярозкі,*
*Дзяўчына к хлопчыку нагнулася і, слёзкі*
*Сціраючы яму, штосьці пачала казаць,*
*Каб заспакоіць плач — зусім як быццам маць.*

Прыгадваю расповед адной бабулі, пачуты ў Ракуцёўшчыне.

У багатым панскім маёнтку жылі бяздзетныя муж і жонка. Усё ў іх было, акрамя дзяцей. Сумавалі яны моцна. Дзень пры дні адно і тое ж. На дварэ шарая гадзіна, а ім і заняць свае рукі няма чым. Дык каб суцешыць сябе, замовілі залатую калясачку. Сядзяць — калясачку ад аднаго да другога пакоцяць: той ад сябе, а потым другі ад сябе. Забаўляюцца. Хлопчык, які адпаўзаў ад мяне на чацвярэньках, — вось яна, сапраўдная залатая калясачка! Дзіцё — жыццё. І мара, і мроя мая…

Божухна! Найлепшая мая старонка ў «штодзённіку жыцця» — Ракуцёўшчына: я часта прыгадваю, успамінаю, перачытваю свае вершы пра «Старую Беларусь», а ў вачах… паўстае і абліча далёкайдалёкай вёскі, і бязлюдная вуліца, бо «на полі ўсе», калі нават «не мелькнецъ спадніца, не пройдзе з вёдрамі па ваду мала-дзіца. Не ўгледзіш белую магерку мужыка, у паветра не памкне іржанне жарабка. І песня сумная не паліецца звонка… Што ж дзіўнага, калі раптоўна крык дзіцёнка пачуўшы, дрогнуў я і агледзеўся. Ах!» Усё мне тут блізка, усё знаёма: і хлопчык выпацканы той, «іржанне жарабка», калі дзядзька Ахрэм кажа: «Кабыла за дзелам, а жарабя без дзела» і гаворыць з канём і з жарабком, калі задумваецца, пра што рыкаюць каровы, нібыта з космасам гаворацъ, задраўшы галаву, — і дзядзька той таксама нібы прышэлец з высяў касмічных.

З ціхай, добрай радасцю я вяртаюся да той вёскі, да таго малюнка з натуры, і бачыцца мне «штосьці вышэйшае, што Рафаэль вялікі / Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі». Штосьці зямное, чалавечае было ва ўсім, але і высокае, боскае, што і выявілі выдатныя мастакі Адраджэння. Якое выразнае пачуццё Мацеры, ды «з воблікам дзяўчыны, дзіцячым, ценэнькім». Суцяшаючы брацiка, дзяўчына падобная да Маці Боскай і Чалавечай. Яна адкрыла ў сабе пачуццё жаночай спагадлівасці і самаахвярнасці. «А можа, не краса была ў дзяўчынцы той, — / Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой…»

Каханая! Тое абліча Мадонны засталося ў памяці і сэрцы! Я не мог не напісаць пра яго! Мілы, адвечны, мройны і такі жаданы вобраз! Зліліся ў адно: ты, каханая, тваё мройнае абліча гарадской дзяўчынкі, мілай, дарагой, прыгожанька апранутай, бялюткай, кучаравай і той, вяскоўай, клапатлівай, хударлявай, спакутаванай ад частага недаядання, замурзанай і ачмурэлай ад працы непасільнай паўсядзённай на зямлі ў градах, на гнаі ў хлявах, на гумне ў саломе, у хаце з земляной падлогай. Але «хваліюць сэрца нам дзявочыя пастаці». Мне ж адкрылася зусім іншае:

*Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны,*
*Дзіцячым, ценэнькім; і ў гэты час яна,*
*Здавалася, была аж да краёў паўна*
*Якойсь шырокаю, радзімаю красою, —*
*І, помню я, на міг пахарашэў душою.*
*З прысвячэннем! Твой Максім Крыніца**.*

*7.XI.1913 г. Яраслаўль*

**Дарагі Максім Крыніца!**

«Пахарашэў душою». Як міла! Думаецца, мой дарагі, што ты сягнеш высока і далёка. А так хацелася б ведаць, калі і дзе напісаны тыя радкі, што ты думаў пры гэтым. Дашлі мне тую газету, у якой будуць надрукаваны вершы з прысвячэннем. Гэта міла, але, магчыма, я такое яшчэ нічым не заслужыла, ды і не маю ахвоты да такой высокай пашаноты. Я люблю пацвельвацца з хлопцаў, памучыць іх, даняць, закрануць за жывое — няхай папакутуюць. Мацней кахаць будуць. А пакуль я не належу нікому, то і прысвячэнні занадта ранняя, я так думаю. Ты клічаш мяне ў край белых клавішаў-бяроз…

*Твая А***.*

**Маёй неспатольнай А.**

Як доўжыцца час, калі я чакаю сустрэчы з табой, мая незабыўная, неспатольная А. Р. К. Як шмат гаворацъ мае пачуцці, зашыфраваныя ў вершах.

«Мадонны» — гэта маё запаветнае разуменне прыгожага, якое я шукаю ў нашым паўсядзённым існаванні. Там, дзе ёсць ты, каханая, — там святло і харастсва, дзе няма цябе — змрочна і халодна. Я гатовы цалаваць адбіткі тваіх слядоў.

*Маркотна я чакаю. Для чаго ты*
*не выйдзеш з хаты ў жаркі поўдзень зноў?*
*Тады бы, пэўна, выціснулі боты*
*Па мяккаму асфальту рад слядоў.*
*І я, нявідны для цябе і бледны,*
*Не бачачы нічога ўкруг сябе,*
*Прыпаў бы к ім… І вось чакаю, бедны:*
*Ці хутка з'явіцца канец журбе?*

*Твой Максім Крыніца.*

**Мой неадступны мілы М.!**

Паведаю табе маіх намераў сотню тысяч. У Пецярбург хачу ляцець стралою князя Ігара, каб музыкай займацца, чараваць, мовы вывучаць, каб свет адкрыты ўбачыць, вандраваць, новыя краіны адкрываць. «Мая душа, як ястраб дзікі, / Што рвецца ў неба на прастор…»

Жаданняў шмат — спыніцца ні на чым яшчэ я не магу. Пабачыць свет хачу, каб свет мной зачараваны быў, прызнання свету цэлага жадаю. І танцы, музыку люблю. І захапленне вакол сябе. Хачу ў адзін, другі, трэці, чацвёрты ўбегчы пакой і, з пяткі на насок ступаючы, сказаць цішком, але каб свет пачуў: «Вось яна Я». Ты памятаеш, ты ведаеш, адкуль такое маё жаданне? І хто я? Гатова я табе прызнацца ў каханні, ды штосьці стрымлівае. Пакуль не ведаю што. Мо дар твой песенны? Характар? Замілаванасць Беларуссю, якую любіш больш ты за сябе самога? А я ў цябе — на месцы пятым, сёмым? Дзе тая Арыстоцелева сфера, што размяжуе неба? На якім з табой мы свеце? Адкажы?

*Твая А.*

**Маёй А.**

Адбылося гэта ў Калядную ноч, калі ўсе варожаць. Ці, можа, мроіў я, ці сталася ўжо так, але ў душы жыве, расце адно і тое ж пачуццё, загадка і разгадка стану майго сённяшняга, біцця крыві ў скронях, глухаты ў галаве, разрыву сонечнага ранняя ў грудзях. Пра што я мрою? Аб чым мая адна турбота сёння?.. Чамусьці ноч праглядваецца ясная, ды не халодная, стаяць пад зоркамі не халадна ніколі, сняжок хрумсціць і… вось яна. Мне так жадаецца, каб так было (а мо і не было?!). І няхай яна ведае (ці не ведае) пра тое зваблівае і загадкавае пачуццё, якое песціць, бароніць, цешыць… А яно ж магло быць менавіта так, як выснавалася, бы на кроснах, у маёй галаве думкай, сюжэтам, сцэнай.

*Халодная, ясная ноч…*
*Звонка хрумчыць сняжком,*
*Ідучы мне насустрач, дзяўчына.*
*«Як Вас завуць?» —*
*Пытаюся я. —*
*Сягоння ж усе гадаюць.*
*І яна нягаласна кажа:*
*«Аня».*

Удзячны табе, Божа, што ты паслаў мне яе насустрач, што не размінуліся мы, не прайшлі, не заўважаючы адно аднаго. Божа, захавай маё пачуццё! Толькі хачу сказаць: «Ды свяціцца імя тваё!»

*Максім Крыніца.*

**Закаханы мой сябра-ліцэіст Максім Крыніца!**

Шмат што дзеецца ў свеце, а думка ў кожнага адна — быць шчаслівымі на свеце, выпіць келіх свой да дна: ці то з промнямі дарункаў, ці з атрутаю якойсьці. Толькі людзі, што наўкола, могуць пазайздросціць нашаму каханню. Пачуццям новым не дадуць тут разгарнуцца, яны ўсё ведаюць наперад. Смяяцца могуць, пацьвельвацца з цябе, з мяне, не хочуць усрымаць усур'ёз, брацъ у разлік ні тваё намеры, ні мае пачуцці: маладыя, маўляў, яшчэ зялёныя, малако на губах не абсохла, каб пракладаць шлях свой самастойна. А я хачу цябе бачыць штодня, хоць ты прыходзіш і маўчыш. Маўчун… Ды маўчанне мацней за словы, часта так бывае. Калі чалавек маўчыць, у ягонай галаве шмат дум і мрояў розных. Не маўчы, бо нам могуць перашкодзіць — затаптаць у прысак яшчэ не спраўджанае каханне, у якое я веру.

*Твая заўсёды А. (Г. Р. К.)*

**Працяг будзе.**

* *«С нами любовь» (рус., чыт. справа налева).*
***Максім Крыніца — псеўданім Максіма Багдановіча.*
****А. — Ганна Рафаілаўна Какуева.*



*Мемарыяльны дом-музей М. Багдановіча ў Яраслаўлі.*

# ЗАПАВЕТЫ ПАЛЯЎНІЧАГА

## Больш чым літаратура ад Караткевіча

**Зямля пад белымі крыламі — такое імя радзіме можа даць тонкі знаўца прыгожага, шчыры пясняр з крылатай душой. Творы Караткевіча сягаюць нашмат шырэй за літаратуру і жывуць сваім жыццём у іншых відах мастацтва. «У. Караткевіч “Дзікае паляванне караля Стаха”» — першая выстаўка з цыкла «Літаратура ў мастацтве» Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Унікальны праект згуртаваў прадстаўнікоў розных культурных структур, якія прадаставілі для экспазіцыі адмысловыя экспанаты і дакументы з экранізацыі «Дзікага палявання».**

— Галоўная мэта цыкла выставак «Літаратура ў мастацтве» — паказаць літаратурны твор у інтэграцыі іншых відаў мастацтва: кіно, тэатр, музыка, жывапіс. Таму прадстаўлены разнастайныя экспанаты. Кнігі Караткевіча выдаюцца пастаянна. Яго перакладаюць на мовы свету. Калі ўзяць бібліятэчную кнігавыдачу, то з беларускіх аўтараў Караткевіч найбольш чытаны. Для выстаўкі мы ўзялі твор, легендарны з усіх бакоў, — «Дзікае паляванне караля Стаха». Па Караткевічу былі экранізаваныя і іншыя творы. Але мы хацелі паказаць ролю аднаго твора, — адзначыла арганізатар выстаўкі, загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Прэзідэнцкай бібліятэкі Юлія Сярмяжка.



*Фрагмент экспазіцыі ў Прэзідэнцкай бібліятэцы: арыгінал заявы У. Караткевіча на сцэнарый, 1977 г.*

У экспазіцыі — безліч адмысловых экспанатаў і дакументаў, што раскрываюць гісторыю экранізацыі твора. Уражвае рэквізіт са здымак «Дзікага палявання». Касцюмы, фатаграфіі са здымак прадаставіла Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм». Асабістыя рэчы Караткевіча (партфель, кішэнны гадзіннік фірмы П. Бурэ, кубак, попельніца, чарнільная ручка, незвычайная льняная кашуля з гальштукам і капелюшом, выданне «Дзікага палявання караля Стаха» на нямецкай мове, Берлін, 1985 г.), партрэт пэндзля Л. Шчамялёва (2000 г.) прадаставіў Музей гісторыі беларускай літаратуры. Лібрэта і фатаграфіі з оперы (у 1989 го-дзе па творы Уладзімір Солтан напісаў оперу, якая і сёння ідзе ў Нацыянальным тэатры оперы і балета; опера адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь) — ад Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Музей гісторыі беларускага кіно перадаў арыгінал афішы на «Дзікае паляванне» на італьянскай мове 1980 года, экспартны варыянт.

Беларускі дзяржаўны архіўмузей літаратуры і мастацтва прадаставіў надзвычай каштоўныя дакументы па стварэнні фільма: пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета, смета, рэжысёрскія замалёўкі, работы над сцэнарыем (арыгіналы заяў Караткевіча (1977), арыгінал рэцэнзіі А. Куляшова (28.11.1977) ды інш.). Дарэчы, сцэнарый абмяркоўваўся шмат разоў. Планавалася, што першапачаткова сцэнарый напіша сам Караткевіч, але яго сцэнарый не быў прыняты. Па заяве Караткевіча (яе арыгінал прадаставілены архівам-музеем і дэманструецца ў экспазіцыі) для напісання сцэнарыя падключылі рэжысёра Валерыя Рубінчыка, які ў 1979 годзе зняў фільм. З рэжысёрскага нарыса: «Прызнаюся, калі яшчэ 7 гадоў назад упершыню прачытаў аповесць Караткевіча “Дзікае паляванне караля Стаха”, то літаральна быў ашаломлены: твор, дзе дзіўна і займальна перапляліся філасофскія развагі пра лёсы народа, напружаныя дэтэктыўныя інтрыгі, элементы хвалюючай меладрамы з праблемамі сатырычнага памфлета, фантастычныя фальклорныя матывы з літаратурнай гульнёй. Гэта сапраўды ўражвала ўяўленне і быццам прасілася на экран». Дзякуючы дакументам і матэрыялам, якія прадаставіў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, можна зрабіць выснову, што лёс фільма нялёгкі: зацвярджаліся шмат разоў акцёры, змяняліся сюжэтныя лініі, рэжысёрскія акцэнты. Але чытаем архіўныя дакументы з экспазіцыі, дзе Караткевічам пазначана: «На мой погляд, карціна ўдалася. Я свядома не кажу, што гэта рэч мая як аповесць. Трапіўшы ў кіношныя сцэны, твор рэдка атрымліваецца такім, як задумана аповесць. Але калі і атрымліваецца, то вельмі дрэнна. Я лічу, што фільм зроблены *па матывах* маёй аповесці, ён удаўся…».

Фільм ацанілі: ён узяў 6 міжнародных узнагарод. Пэўна, адыграў ролю таленавіты склад акцёраў: на фатаграфіях у экспазіцыі застылі ў кадрах Барыс Плотнікаў, Алена Дзімітрава, Альберт Філозаў, Раман Піліпаў, Барыс Хмяльніцкі...

Але не абышлося без крытыкі…

— Помню засмучаны выгляд Рубінчыка, плаксівы голас Караткевіча, калі ён патэлефанаваў і сказаў, што фільм крытыку-юць, не прымаюць, і самому яму штосьці не падабалася, — згадала падчас імпрэзы колішні рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм» Лілія Пінчук. — Як магла, суцяшала. Вядома, кожны хвалюецца за свой твор, тым больш — экранізацыю. Караткевіча я ведаю з 1965 года, калі прыйшла ў выдавецтва «Беларусь». Першы чалавек, які быў у рэдакцыі аддзела мастацкай літаратуры, — Караткевіч: сядзеў паўлежачы на канапе. Ён заўсёды любіў шмат цікава распавядаць: на рускай, украінскай. Ён ведаў многае на памяць, нават дзе, на якой старонцы, у якой кнізе. У кіно яму і патрэбна было працаваць, бо ён атрымаў другую прафесію: разам з Адамовічам яны адзіныя з пісьменнікаў скончылі вышэйшыя сцэнарныя курсы. Нягледзячы на ўдары крытыкі з усіх бакоў, ён пераможцы. Помню, калі быў чарговы агляд-конкурс (на «Беларусьфільме» ў той час кожны год ладзіўся агляд-конкурс фільмаў мастацкіх, дакументальных, навукова-папулярных і г. д.), тым вечарам, калі павінны былі паказваць «Дзікае паляванне», прайсці было немагчыма. Быў такі натоўп…

Караткевіч стаў узорам, выдатным прыкладам літаратуры для кіно, лічыць намеснік генеральнага дырэктара «Беларусьфільма» Вячаслаў Нікіфараў:

— Я меў шчасце быць знаёмым з Уладзімірам Сямёнавічам. Былі ў яго ў гасцях і дамаўляліся пра экранізацыю «Чорнага замка Альшанскага». У мяне ёсць яго аўтограф, потым я аддаў яго ў музей кіно. Запомніліся праўкі шматлікія, тыпу пунктуацыі, арфаграфіі. Ён у гэтым сэнсе быў вельмі прыдзірлівым, дасканалым. Яго творчасць, сам ён насычаны тым, без чаго немагчыма ўявіць кіно, нават дзіцячыя фільмы. Рэдка хто так піша ў кіно. У Караткевіча ёсць усе прыкметы кінематаграфічнасці: пачынаючы гістарызмам, заканчваючы вельмі глыбокай прапрацоўкай характараў. Мне пашчасціла зрабіць некалькі экранізацый. Я зразумеў, што такое класіка. Яна бязмежная. Ты нідзе не ўпіраешся: ні ў столь, ні ў сцэны, ні ў якія перашкоды. Гэта цэлы бясконцы свет. Сапраўдная літаратура, а ўслед і фільм — гэта мадэль свету. Яна, як і свет, не абмежавана нічым.

Партыйнае начальства «Дзікае паляванне» ўспрынята вельмі раўніва, заўважыў Вячаслаў Нікіфараў: «Я схіляю галаву перад геніем Уладзіміра Сямёнавіча: так прадставіць гісторыю ўсяму свету. Што такое Беларусь XV — XVI ст., калі і Магдэбургскае права гадоў на 300 — 400 раней, чым у рускіх княствах; уніяцтва, суіснаванне царкваў, гумар. Вялікая ідэя пра чалавека, які прымерау на сябе місію Хрыста ў творы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». З аднаго боку, кашчунства з кашчунстваў, а з іншага — якая спакуса, калі просты прытворшчык узняўся, вырас, ідэя збаўцы. Калі я працаваў над экранізацыяй, яна не адпускала мяне яшчэ цэлы год. Асабліва апошняя фраза: “І выйшаў сейбіт на ніву свае”. Уся еўрапейская культура трымаецца на хрысціянстве, усе ідэалы дадзены ў Нагорнай пропаведзі, у 10 запаведзях, а геніі час ад часу зноў і зноў нам вяртаюць гэтыя ідэалы, пагружаюць у іх, каб мы не азвярэлі, не апусціліся, каб зберагалі Боскі пачатак».



*Аўтограф У. Караткевіча на выданні «Блакіт і золата дня» (1961) з фондаў Прэзідэнцкай бібліятэкі.*

— У Караткевіча быў досвед працы з Уладзімірам Бычковым. «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — гэта іх агульны плён, але праца ляжала на паліцы, — распавёў генеральны дырэктар кіністудыі «Беларусьфільм» Ігар Поршнеў. — Наступныя карціны таксама ішлі з цяжкасцямі. Думаю, і гэта скарацiла жыццё Караткевіча.

«Дзікае паляванне» не забытае і сёння, акцэнтаваў Ігар Поршнеў: «Да мяне звярнулася эстонская прадзюсар, якая купіла правы ў сям'і Караткевіча і 3 гады працуе над рэмэйкам фільма “Дзікае паляванне”. Вялікі альбом як прыклад еўрапейскага падыходу для распрацоўкі праекта. Такім чынам, не забылі гэты твор».

З фондаў Прэзідэнцкай бібліятэкі ў экспазіцыі прэзентаваныя шматлікія выданні «Дзікага палявання» розных гадоў, у тым ліку і першая публікацыя ў часопісе «Маладосць» у 1964 годзе (№№ 9—12). Гартаючы выданні, цікава прасачыць, як ілюстраваўся твор. Вядомыя артысты мастакі-ілюстратары: Арлен Кашкурэвіч, Юрый Якавенка і Міхаіл Басалыга.

— У канцы 1960-х — пач. 1970-х у выдавецтве «Беларусь» працаваў Янка Галубовіч і аднойчы з-пад палы даў мне яшчэ непераплеценае «Дзікае паляванне», без вокладкі, без першых лістоў, — распавёў Міхаіл Басалыга пра першае знаёмства з «Дзікім паляваннем». — Выражалася: быць кніжцы ці не быць. Я прачытаў, зразумеў: мая кніга. Сеў і зрабіў дзве кніжкі — «Дзікае паляванне» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». «Дзікае паляванне», можна сказаць, у мяне выхапілі з мальберта (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Кнігу надрукавалі, яна нават атрымала ўзнагароду. Можна намаляваць усё што хочаш, але ў «Паляванні…» не проста князь у кірзавых ботах прабег — створана атмасфера, эпоха. Так зрабіць мог толькі Караткевіч. Дарэчы, і ў жыцці ён быў такі: калі сыходзіліся Караткевіч і Барадулін — гэта ўцякай, бо адзін смех! Немагчыма было з імі размаўляючы: абавязкова адзін аднаго перабіваюць, і ўсё вельмі цікава. Караткевіч павінен быў з'явіцца. Ды вялікія нараджаюцца рэдка. Не кожнай эпосе пашчасціла мець вялікіх. У творчасці на адну хвалю з Караткевічам трапіць нескладана, а вось падняцца да Караткевіча — цяжка.

Міхаіл Басалыга ўзгадаў завяршэнне жыццёвага шляху Караткевіча: «Адну яго кніжку — “Чорны замак Альшанскі” афармляў Пётр Драчоў. Сустрэліся яны, і Караткевіч кажа Драчову: “Ведаеш, жыццё маё ўжо падыходзіць да канца, я хачу развітацца з Радзімай. Давай зробім плот, і — па Нёмане”. Змайстравалі плот і паплылі. Так развітвацца можа толькі геній. Лепш не прыдумаеш. Праплылі яны дзень, два, яму стала дрэнна, выклікалі хуткую…»

Уладзімір Караткевіч гаварыў: «Трэба працаваць, не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу. Колькі будзе дадзена: многа ці мала, але да канца».


*Касцюмы і дэкарацыі са здымак «Дзікага палявання», прадастаўленыя кінастудыяй «Беларусьфільм».*

**Наталля СВЯТЛОВА,**
**фота аўтара**

# «МОЙ МІЛЫ СЫН...»

**Выстаўка пад такою назваю адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Экспазіцыя прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння сярэдняга сына беларускага Песняра — Юркі. У юбілейны год класіка гэтая падзея стала знакавай і сімвалічнай для прыхільнікаў яго творчасці.**

Выдатны апавядальнік і проста цікавы чалавек малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч прыгадаў шмат фактаў пра старэйшага брата:

— Юрка вельмі любіў чытаць. Нават яго аднакласніца расказвала мне, што на ўроку ў яго была заўсёды пад партаю кніга.

Апошняя сустрэча з братам, як і яго захапленні, што перадаліся Міхасю Міцкевічу, моцна ўрэзаліся ў памяць:

— Юрка быў выдатным стралком. Калі летавалі сям'ёй у 1933 — 1934 гадах у Тальцы, то шмат прыязджала паляўнічых з Мінска. Юрку таксама захацелася пайсці на паляванне. І адразу прынёс пяць качак! Памятаю, як пасля першай бамбёжкі Мінска немцамі гадзіне а 10-й сядзелі разам. Юрка сказаў мне, каб захоўваў стрэльбу, бо, калі скончыцца вайна, будзем разам хадзіць на паляванне. А я сэрцам адчуваў, што мы больш ніколі не пабачымся. Потым ён пайшоў па Магілёўскай шашы і прыстаў да 49-га артылерыйскага палка.

Унучка Якуба Коласа, супрацоўніца Інстытута мовы і літаратуры Вера Данілаўна Міцкевіч, расшукала шэраг новых фактаў і цікавых жыццёвых гісторый з біяграфіі дзядзькі Юркі:

— Геаграфічны факультэт БДУ спачатку быў геолага-геаграфічным, там Юрка і вучыўся. Але пасля ва ўніверсітэце адмовіліся ад геалагічнага профілю. А Юрка хацеў стаць геолагам, таму вырашыў паехаць у Ленінград, дзе ва ўніверсітэце меўся геолага-глебавы факультэт. Праўда, прабыў там Юрка ўсяго паўгода. Вярнуўся дамоў, бо засумаваў. Дый на паляванне трэба было ездзіць па спецыяльным паляўнічым білеце...



*Юрый Міцкевіч, 1938 г.*



*Якуб Колас, Юрка, Міхась, Данік, Марыя Дзмітрыеўна. Мінск, 1928 г.*

Завяршэннем вечарыны памяці сярэдняга сына Якуба Коласа стала выступленне паэта Міколы Мятліцкага, які зачытаў паэму «Апалены золак. Вяртанне Юркі Міцкевіча».

Выстаўка «Мой мілы сын….» змяшчае фотаздымкі Юрыя Міцкевіча ў студэнцкім і сяброўскім асяроддзі, у сямейным коле. Экспануюцца арыгіналы пісем Юркі бацькам у першыя месяцы вайны, якія раскрываюць яго як моцнага чалавека і салдата, пяшчотнага і добрага сына, дапаўняюць новымі колерамі вобраз «каласка» Юрыя, якога напаткаў трагічны лёс.

**Аляксандр КРЫЖЭВІЧ**

# Чалавечае ў Боскім

## Чым здзіўляе рэстаўратараў нясвіжскі Касцёл Божага Цела

Яшчэ ў 2011 годзе ў Фарным Касцёле Божага Цела ў Нясвіжы пачалася рэстаўрацыя. Падчас работ на фасадах храма знайшлі фрэскі, якія датуюцца XVI — XVIII стагоддзямі і, па словах экспертаў, уяўляюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць, хоць сведчанняў пра гэтыя роспісы няма ў архіўных крыніцах.

У Нясвіжскім касцёле знаходзіцца крыпта Радзівілаў, на рэстаўрацыю якой Еўрапейскі саюз вылучыў грант 1,5 мільёна еўра. Паводле старшыні Нясвіжскага райвыканкама Івана Крупко, акрамя гэтых сродкаў на рэстаўрацыю самога храма ў бягучым годзе вылучана 600 тысяч рублёў з беларускага бюджэту. Першая чарга работ па аднаўленні помніка ўжо была завершана летась.

Галоўны архітэктар праектаў філіяла ААА «Белрэстаўрацыя» Андрэй Карпук адзначае, што аб'ект вельмі сур'ёзны, таму пытанне аб міжнародным супрацоўніцтве агучвалася даўно: «Выконваць працу будуць нашы рэстаўратары-мастакі, і толькі канкрэтную частку работ возьмуць на сябе нашы замежныя калегі — у першую чаргу антрапалагічныя даследаванні. Зараз наша дэлегацыя знаходзіцца ў Літве, дзе мы зможам набрацца ў калег досведу, бо ў Беларусі такіх спецыялістаў няма. Першапачатковая задача, якая пастаўлена перад рэстаўратарамі, — навуковая інвентарызацыя. Потым спецыялісты будуць займацца гідраізаляцыяй, рэстаўрацыяй падлогі і жывапісу».

Касцёл Божага Цела быў пабудаваны ў Нясвіжы ў 1593 годзе па ўзоры рымскага касцёла Святога Імя Ісуса (Іль-Джэзу) на сродкі Мікалая Радзівіла Сіроткі, а архітэктарам будынка стаў італьянец Джавані Марыя Бернардоні. Згодна з крыніцамі, гэта першае цалкам барочнае збудаванне з пункту гледжання архітэктуры ў краінах Усходняй Еўропы і другое — у свеце. Але касцёл цікавы яшчэ і тым, што за больш як 420 гадоў існавання ніколі не быў зачынены. Для роду Радзівілаў гэты храм выключны, бо тут знаходзіцца сямейны магільны склеп, дзе прадстаўнікоў роду хавалі пачынаючы з 1616 года і да нашых дзён. У свой час крыпта стала трэцяй сямейнай пахавальняй у Еўропе (пасля крыпт Бурбонаў і Габсбургаў), а дазвол на стварэнне склепа Мікалай Радзівіл Сіротка атрымліваў асабіста ў Папы Рымскага.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

*Чароўная Беларусь*

# ЛАЗНЯ



Невялічкая лазня стаяла асобна, адразу за агародамі, хаваючыся за духмянымі кустамі язміну. Праз агароды да яе бегла вузенькая сцяжынка. Уткнуўшыся ў плоскі камень ля самых дзвярэй, яна як быццам гарэзліва адскоквала ад яго і бегла далей — на выган з пакрытымі каляровымі імхамі купінамі. За лугам струменілася шпаркая рачулка. Некалі з яе насілі ваду ў лазню. Насіў і я, калі трохі падрос. Туды ісці было добра і лёгка, а вось назад! Некалькі разоў прыпыняўся...

Дарэчы, камень да лазні прывёз мой дзядуля. Некалі далёка за полем, каля лесу, была вялізная яма, з якой бралі пясок. Там гэты камень дзед і адкапаў. Ляжаў ён каля самага парога, высокага, з тоўстага бярвення, падрапанага нагамі людзей. Дзверы, што ў шырыню, што ў вышыню, — аднолькавыя. Дарослым трэба было нізенька схіляцца, каб не трэснуцца лбом. Але на гэта ніхто не скардзіўся, бо неабходна было зберагчы цяпло ды дух, што ішлі ад печы.

Адразу за дзвярыма — невялічкі пакойчык. Злева ж, каля акенца, стаялі лавы. Адна — з разной спінкай. Месціліся яны вакол стала — зусім, здаецца, чорнага. Такім ён здаваўся мо таму, што святла было мала, а мо проста пачарнеў ад часу, бо стаяў тут заўсёды, з самай пабудовы лазні. Лавы ламаліся ды замяняліся, а вось ён быў вечны. Справа — яшчэ адна лава, на якой заўсёды таўкліся бакамі розныя вёдры, драўляныя кварты, невялікі цэбар. Бліскучэла начышчанымі бакамі даўно працёртая медная конаўка. І калі з яе пілі ваду, тая бліскучымі, як матуліны пацеркі, кроплямі капала на кашулю. Але яе не выкідвалі, бо яна мела за сабой доўгае жыццё і ў лазні, і ў гэтай гаспадарцы.

Але сёння размова толькі пра лазню. Трошачкі далей справа, каля самага вушака дзвярэй — тры, а можа, болей тоўстыя цвікі. На іх чаплялі адзенне, ручнікі ды розныя іншыя дробязі. Пад самай столлю на кароценькім ланцужку вісела газавая лямпа. І хаця яна была над сталом, усё роўна нехта заўсёды чапляў яе галавой, потым лавіў рукамі і сунімаў. Але язычок полымя ў ёй яшчэ доўга хістаўся, прымушаючы дзівосныя цені бегаць па драўляных сценах, падлозе, столі, шкле акенца.

І ўсюды, куды ні кінь вокам, віселі пучкі розных зёлак. Вялікія, маленькія, з кветкамі ці без. А які пах! Вада ў вёдрах, калі пастаць, ежа на стале, вопратка на цвіках — усё пахла зёлкамі. Але да гэтага пах прызвычаіліся і ўжо не звярталі ўвагі. Здавалася, так і павінна быць у лазні. Тут валадарыў свой свет: адмысловыя колеры і рэчы, вось гэтыя пахі...

На процілеглай ад увахода сцяне яшчэ адны дзверы — у парылку, а злева ад іх — белая печ, дзверцы якой знаходзіліся над самай падлогай. Менавіта праз іх яна атрымлівала дровы, каб аддаваць цяпло і жар. Вышэй знаходзіліся невялікія пячоркі, у якіх заўсёды ляжалі запалкі, смалячкі на распал, там жа сушыліся рукавіцы. Зімой, калі зусім адвальваліся пальцы пасля цягання вады і дроў, у гэтых пячурках я грэў скалелыя рукі.

Збіраліся ў лазні павольна, калі ў печы заставалася толькі вуголле, калі да яе бакоў нельга было нават дакрануцца, калі нават тут, на лаве, награвалася вада. Сядзелі, хто першым прыйшоў, за сталом і гутарылі, чакаючы астатніх. Размаўлялі пра надвор'е, справы ў калгасе, жыццёвыя дробязі. Шмат было жартаў, незвычайных і цікавых гісторый. Нешта адпраўлялі ў рот з гліняных місак, з шырокай патэльні. Калі са склепа з'яўлялася кіслая капуста — яе пах перабіваў усе астатнія. Ад гэтага паху адразу цякла сліна, і ты відэльцам цягаў смакату тоўстымі капамі ў рот, піхаў за шчокі, гучна і задаволена чмокаючы.

І вось, калі заходзіў апошні ахвотнік папарыцца, а гэта чамусьці заўсёды быў дзядзька Уладзік, гучала таямнічае: «Ну што…». І ўсе адразу разумелі, што гэта значыла. А прамаўляў своеасаблівы кліч наш дзед Дзям'ян. Ён заўсёды сядзеў у самым куце. І пакуль усе, гучна сапучы, распраналіся і адзін за адным хуценька шмыгалі ў парылку, дзед яшчэ нейкі час сядзеў за сталом, дапытваючыся ў мяне, ці дастаткова будзе на ўсіх вады, ці хопіць духу, ці доўга ў тазе ляжалі венікі, бо сёння людзей як ніколі. І толькі калі на ўсе свае пытанні дзед атрымліваў станоўчы адказ — ківок ад мяне — ён павольна паднімаўся з-за стала, здымаў адзенне, пакідаючы толькі споднікі, жагнаўся і, узяўшыся за клямку парылкі, гучна казаў: «Прасіць мы будзем Бога, каб не зваліцца на падлогу. А яшчэ здароўя ў нашы грудзі прасіць мы шчыра…». «Бога будзем!» — падхопліваў я разам з усімі даўно вывучаныя дзедавы словы. І пакуль дарослыя «хапалі» першы дух, я адчыняў дзверы, са-дзіўся на шырокі парог і назіраў, як з садоў і агародаў, крадучыся, спускаўся серабрысты туман, які паглынаў на сваім шляху і рэчку, і сцяжынку, і луг з купінамі каляровага імху.

**Уладзімір ЦВІРКА**

# ІМЁНЫ З «ШОРТ-ЛІСТА»

Прафесійнае журы павінна было вызначыць пераможцаў конкурсу ў дзесяці намінацыях: «Навацыя», «Творчы дэбют», «Мастацкая фатаграфія», «Дызайн», «Жывапіс», «Графіка», «Скульптура», «Манументальнае і манументальна-дэкаратыўнае мастацтва», «Дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва», «Мастацтвазнаўства і крытыка». Творы ўсіх лаўрэатаў можна ацаніць на выстаўцы «Шорт-ліст», якая арганізаваная ў сталічным Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў.

З'яўленне Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва — падзея важная і знакавая: мастацтва нашай краіны развіваецца, і гледачу патрэбныя арыенціры і разуменне таго, што ёсць добра і чаму.

Самі ж аўтары ўпэўнены, што такая сур'ёзная ўзнагарода дае ім магчымасць быць канкурэнтаздольнымі. Бо калі няма канкурэнцыі, няма і стымулу знаходзіць арыгінальныя рашэнні ў творчасці. А калі ўлічваць, што ў кожнай намінацыі спаборнічаюць мастакі высокага прафесійнага ўзроўню, гэта толькі павялічвае матывацыю.

З якой перыядычнасцю будзе ўручацца Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва, яшчэ вырашаецца. Аднак Міністэрства культуры ўжо займаецца распрацоўкай палажэння аб тэрмінах правядзення.

— Пакуль мы не вырашылі канчаткова, як далей будзе арганізоўвацца прэмія, — адзначыў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. — Магчыма, варта ладзіць цырымонію раз на два гады ці раз на тры. Гэта звязана з тым, што мастацкі працэс залежыць ад натхнення, нельга спяшацца, заганяць мастакоў у межы. Творы павінны выспець, быць да канца гатовымі. Мы ж пакуль маем магчымасць атрымліваць асалоду ад тых твораў, якія дэманструюць мастакі сёння.

Паколькі прэмія нацыянальная, то да мастацкіх твораў у журы шэраг патрабаванняў. Работы павінны прадстаўляць нацыянальную школу мастацтваў, адпавядаць нацыянальнай тэматыцы, узнімаючы ў тым ліку і філасофскія пытанні. І яшчэ адна няпростая задача для ўдзельнікаў — арыгінальна сумясціць у творах наватарства, традыцыі і сімвалы краіны (не ў прамым, а ў аўтарскім разуменні).

— Калі мастак заслужыў званне лаўрэата Нацыянальнай прэміі — гэта вельмі высока і адказна, — адзначае старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — Бо сутнасць не ў тым, каб прыгожа нешта намаляваць. Трэба зрабіць унёсак у нацыянальную культуру. Перад кожным аўтарам стаіць задача: расказаць пра нашу нацыянальную гісторыю сучаснай пластычнай мовай, выкарыстоўваючы індывідуальны аўтарскі стыль, раскрыць вобраз краіны, паказаць яе глыбіню і зачараванне. Прычым не трэба выдумляць таго, чаго не існуе: наша краіна дае магчымасць праз яе раскрыць талент, прафесіяналізм.

Калі Міністэрства культуры абвясціла, што ў Беларусі з'явіцца Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва, гэта стала штуршком не толькі для знакамітых у арт-прасторы творцаў. Не пакінулі без увагі творчасць маладых аўтараў, бо мастацтва паяднана з маладосцю і энергічнасцю, і менавіта моладзь — рухавік мастацтва. Мастацтвазнаўца Барыс Крэпак упэўнены, што прэмія — своеасаблівы абмен думкамі паміж тымі, хто пачынае, і тымі, чыя творчасць ужо вядомая гледачу: прафесіяналы могуць быць прыкладам, ёсць магчымасць падзяліцца ўласнымі напрацоўкамі, падтрымаць на творчым шляху. Маладыя здольныя захапіць калег унутраным запалам і амбітнасцю.

Спецыяльна для прэміі распрацаваныя ўзнагароды, зробленыя са шкла. На іх нанесены лагатып з нацыянальным каларытам. Акрамя статуэтак, кожны з пераможцаў атрымаў грашовыя прэміі ў памеры ста базавых велічынь у кожнай намінацыі. Але, як адзначалі пераможцы, для іх асабліва прыемнае і важнае прызнанне і адзнака прафесійнага журы (экспертаў у сферы мастацтва).

**Вікторыя АСКЕРА**

## Лаўрэаты першай Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва:

**«Жывапіс»: Уладзімір Тоўсцік.**

**«Графіка»: Рыгор Сітніца.**

**«Скульптура»: Васіль Цімашаў і Паліна Пірагова.**

**«Дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва»: Мікалай Кузьміч.**

**«Творчы дэбют» (і прыз глядацкіх сімпатый): Алеся Скарабагатая.**

**«Манументальнае і манументальна-дэкаратыўнае мастацтва»: Глеб Отчык.**

**«Навацыя»: Сяргей Белавокі.**

**«Дызайн»: Эліна Шындлер.**

**«Мастацкая фатаграфія»: Яўген Колчаў.**

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.



# Мастацкі хаос + драмы і алегорыі ад Сяргея Грыневіча

**Імя беларускага мастака Сяргея Грыневіча сёння на слыху як у айчыннай арт-прасторы, так і за яе межамі. Працавітасць творцы ўражвае. Кожны год з любімага Гродна ён прывозіць у сталіцу новыя творы і трапляе ў яблычак: на яго «свежыя» выстаўкі, здаецца, збіраецца палова Мінска. Леташняй вясной аматары мастацтва з захапленнем аналізавалі яго выстаўку «Цёмны пакой» і прыйшлі да высновы, што назва праекта — душэўны стан аўтара і прынцып яго жыцця.**

Сёлета Грыневіч вырашыў адысці ад тэмы цёмнага і патаемнага і прадставіў у Мінску новыя творы, аб'яднаныя выстаўкай «Адам і Ева +». Дэманструецца экспазіцыя ў мастацкай галерэі «ДК».

У сваіх творах Сяргей Грыневіч разглядае стэрэатыпы нашага часу і прапануе іх абвяржэнне. Для мастака няма самамэты паказваць свет, людзей і нават сябе ідэальнымі. Здаецца, наадварот: мастак схільны перабольшваць і тым самым паглыбляць гледача ў мастацкі хаос. Мастак адкрыта сябе крытыкуе. Праўда, гэтым разам Сяргей Грыневіч здзівіў: адарваўшыся ад тэмы ўласнага жыцця, ён пачынае гаварыць пра жанчын. Але не робіць параўнанняў паміж жанчынамі і мужчынамі, не імкнецца перадаць аднабакова сутнасць жаночай душы. Наадварот, робіць акцэнт на яе шматграннасці.

У адной выставачнай зале вы сутыкнецеся з рознымі жанчынамі. Сярод іх — грацыёзныя балерыны, эмацыйныя хатнія гаспадыні, маладыя дзяўчаты, якія яшчэ не зразумелі, чаго ім хочацца ад жыцця, і, нібыта гераіні карцін Рубенса, якія крыху змяніліся пад уплывам часу. Усе творы арганічна выглядаюць у зале і не выклікаюць дысанансу. Для кожнай асобы Сяргей Грыневіч падбірае спецыяльнае колеравае напаўненне, тым самым дэманструе іх адметнасць і ўнікальнасць. Такая мастацкая падача выклікае павагу. Заўважна, што аўтар прытрымліваўся наступнай канцэпцыі: сацыяльны статус, знешняя прыгажосць і нават фінансавая забяспечанасць не маюць істотнага значэння, калі мы вызначаем чалавечае ў чалавеку.

Творы мастака вылучаюцца драматызмам. Аўтар зрэдку стварае спакойныя, гарманічныя работы. Ён прыхільнік эмоцый. Паглыбляючыся ў свет асобнага чалавека, быццам бы ўключаецца ў гульню, дзе форма — толькі сродак мастацкага выказвання, а астатняе глядач павінен нібыта ў думках дамаляваць сам.

Сяргей Грыневіч цяпер адзін з самых папулярных і запатрабаваных творцаў у краіне. Яго работы з вялікай ахвотай набываюць не толькі музеі і галерэі, але і замежныя калекцыянеры. Яго карціны знаходзяцца побач з творамі Сандра Бацічэлі, Альбрэхта Дзюрэра, Лукаса Кранаха, Хусэпэ Рыбэры і Франсіска дэ Сурбарана ў адной з самых вядомых еўрапейскіх прыватных калекцый — зборы Фрыдрыха Кістэрса ў швейцарскім Кройцлінгене. Сам жа Сяргей Грыневіч мала расказвае пра сябе, лічыць, што яго біяграфія дакладна выкладзена ў карцінах, якія падразумяваюць алегарычныя пытанні і варыянты адказаў на актуальныя праблемы эпохі, дэманструюць спробу ўсвядоміць прычыны гістарычных і культурных працэсаў, прапануюць рэфлексію на тэмы маралі і духоўнасці.

**Вікторыя АСКЕРА**



*«Балерына», 2017 г.*

## Алена ТУРАВА:

# «Людзям патрэбна надзея ў кінематографе»

Казачная анімацыя і чароўнае дзіцячае кіно патрабуюць такіх жа чароўных высілкаў і казачных сродкаў. Больш за тое — таленту. Сёння айчынны кінематограф, у тым ліку дзіцячы, пакідае шмат пытанняў: дзе беларускія сямейныя фільмы і мультфільмы? Алена Турава, якая зараз працуе над анімацыйным мюзіклам, пагадзілася разбурыць стэрэатыпы пра тое, хто павінен шукаць сродкі на кіно, як змянілася прафесія кінематаграфіста і чаму складана працаваць з дзецьмі-акцёрамі.

**— Часта можна сутыкнуцца са стэрэатыпам, што анімацыя — кіно дзіцячае. Ці згодны вы з гэтым?**

— Напэўна, з дзяцінства гэта і ідзе — быццам анімацыя ствараецца для дзяцей. Але анімацыя — гэта жанр, а тэма можа быць і дзіцячай, і складанай, нават эпатажнай. Мая першая анімацыйная стужка, знятая ў 25 гадоў, «Ілюзіён», была вельмі дарослай, амаль філасофскай. Калі трапляеш на «Анімаёўку» ці іншыя фестывалі, таксама заўважаеш шмат вельмі «дарослых» анімацыйных стужак. Ёсць розныя менталітэты: фільмы, якія трапляюць у фестывальную абойму еўрапейскіх фестываляў, часта бываюць бязрадаснымі, дэпрэсіўнымі. Я ўпершыню зразумела гэта, калі трапіла на фестываль у Швейцарыі 15 гадоў таму: большасць стужак — вельмі змрочныя. На гэтым фоне нават прыбалты, якія заўсёды адрозніваліся элегічнасцю зместу, падаваліся нейкім хэпенінгам. Сёння я таксама адчуваю гэтую розніцу: еўрапейскае кіно больш змрочнае, нават калі там уздымаюцца добрыя тэмы. Я прытрымліваюся нашай, славянскай духоўнасці. Нашае кіно можа быць і журботным, але яно не павінна пакідаць пачуццё безвыходнасці.

**— Наконт гэтага пачуцця: на сёлетнім «Лістападзе» было прадстаўлена мала анімацыйных работ...**

— Насамрэч зараз запушчана даволі многа анімацыйных адзінак, планка пастаўлена высокая. Адна з галоўных праблем — не хапае аніматараў, бо прафесія гэта эксклюзіўная, чалавек тут павінен спалучаць працу мастака і акцёра. У часы Савецкага Саюза было прасцей камунікаваць з замежнымі калегамі, ездзіць кудысьці па досвед. Але гэта ўсё пра рэсурсы: у нашага цэху абмежаваныя магчымасці, таму запусціць вялікі праект вельмі цяжка. Рэжысёраў на студыі зараз больш за 10, у той час як праектаў можа быць 8, а часам і менш. Што тычыцца творчага складніка, атрымалася, што апошнія некалькі гадоў была ўстаноўка на адукацыйныя серыялы, і іх сапраўды шмат, але не ведаю, ці трэба было рабіць стаўку менавіта на серыяльнасць.

Мая група цяпер працуе над анімацыйным мюзіклам з накіраванасцю на тое, каб атрымаўся поўны метр. Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, марым, каб ён меў пракатны лёс.

**— Мюзіклы сёння зноў становяцца папулярнымі, можна ўзгадаць хоць бы Дэміяна Шэзела з яго «Ла-Ла-Лэндам». А што незвычайнага будзе ў вашай рабоце?**

— Мюзікл заснаваны на кнізе Генадзя Давыдзькі «Зоркі сёмага неба», гэта будуць 5 частак, якія павінны аб'яднацца ў адзін фільм. Праект ужо меў некалькі ўвасабленняў: ёсць тэатральная пастаноўка, ёсць кніга, нават сцэнарый ігравога фільма. І ўсе гэтыя ўвасабленні адрозніваюцца адно ад аднаго. Мы не хочам паўтораў, таму прыдумалі канцэпцыю музычнай анімацыі — яркага маленькага шоу для людзей розных узростаў, якія любяць казку. Канечне, не будзе «навароттаў», як у «*Disney*», але мы стараемся дадаць нейкія элементы драйву, кштальту песень, якім падпяваў бы глядач. Думаю, і дарослым будзе цікава паглядзець. Я і сёння пераглядаю старыя мюзіклы з вялікай любоўю. Памятаю «Скрыначку з сакрэтам», дзе героі спяваюць ад пачатку і да канца фільма, нават празаічныя радкі спяваюцца. Вельмі прыгожая стужка, і мы яе нават пераглядалі перад запускам нашага мюзікла, аналізавалі, як яна зроблена. Канечне, мы можам нагадваць нешта з таго, што ўжо існуе ў анімацыі. Гэта будзе, хутчэй за ўсё, «Лятучы карабель» Бардзіна. Песні мы пішам адмыслова для фільма, выконваюць іх беларускія зоркі — Тэа, Святлана Бень, Дзядзя Ваня, у нас сапраўды зорны склад і скіраванасць на моцныя артыстычныя галасы. Колькасць супрацоўнікаў абмежаваная, таму падзялілі працэс на 5 фільмаў па 13 хвілін. Гэта не фестывальнае кіно, а стужка для масавага прагляду. Мы будзем задаволеныя, калі яно проста спадабаецца.

**— Вы выкладаеце ў Акадэміі мастацтваў, у наступным годзе будзе выпуск рэжысёраў анімацыйнага кіно. Якія парады даяце студэнтам?**

— Навучыць рэжысуры нельга, можна толькі падзяліцца досведам, распавесці пра нейкія памылкі ці дасягненні. Але рабіць чалавека рэжысёрам, калі ён не мае ўнутранай стрункі, гэта значыць, што ў прафесіі чалавек наўрад ці рэалізуецца. Хаця сваю пазіцыю студэнтам я ўсё роўна імкнуся данесці: кіно павінна мець адрасата. Калі фільм патрэбен толькі табе, падумай, ці трэба шукаць або выдаткоўваць чужыя сродкі, бо гэта вельмі дарагое задавальненне, якое патрабуе шмат выдаткаў у плане энергетыкі і часу. Таму, калі ствараецца анімацыя, рэжысёр павінен «прыцэньвацца», для каго гэтае кіно. А людзям патрэбна надзея ў кінематографе, каб фільм пакідаў веру ў нешта добрае. Я магу ўзгадаць шмат таленавітых фільмаў, якія распавядаюць пра жорсткія тэмы, але пакідаюць прамень надзеі. Адзін з маіх любімых фільмаў Томаса Янга «Дагрукацца да нябёсаў» хоць і зняты пра людзей, якім засталося жыць вельмі мала, але ён наскрозь працяты святлом. Ёсць пачуццё, што некаторым стужкам менавіта гэтага святла і не хапае.

**— Якая галоўная змена ў працы кінематаграфістаў за апошні час?**

— Праца творцаў у сацыяльнай сферы змянілася. Раней творчыя прафесіі былі элітнымі і ў фінансавым плане, і па статусе. Вялізная праблема сёння — проста атрымаць працу, псіхічная нагрузка моцная: творчы чалавек безабаронны перад публікай. Вядома, заўсёды чакаеш усмпрымання, атрымліваеш крытыку. Кінематаграфічная прафесія можа прапанаваць больш праблем, чым бонусаў, але людзі сюды ідуць. Праўда, намнога меней, чым раней. У часы Савецкага Саюза былі вялікія конкурсы ў творчыя інстытуты, цяпер такога амаль няма, апантаных засталося не так шмат. У нейкай ступені я ўдзячная тым дзецям, якія яшчэ не зразумелі, у якую складаную сферу трапілі. Мы не хаваем ад іх магчымыя цяжкасці ў будучыні, бо зараз яны пад крылом акадэміі, але не вельмі гэта цэняць. Затое засталося асноўнае пытанне, якое павінен задаваць сабе рэжысёр: «Гэта нельга. А як можна?». З такім пытаннем сутыкаешся заўсёды, асабліва на ігравой пляцоўцы. У мяне такое было, калі запускаўся фільм «Кіндэрвілейскі прывід». Была заяўленая вельмі багатая першая сцэна, а сродкаў на яе не хапала. Таму трэба было замяніць сцэну, але замяніць на штосьці такое ж моцнае. Прыдумалі замену за ты-дзень. Няма рашэння — няма фільма. Я ўпэўнена, што рэжысёрскі талент — гэта маленькая частка прафесіі, усё астатняе — арганізацыйныя здольнасці, нервы. Такія ж праблемы тычацца і іншых прадстаўнікоў кінематаграфіі.

**— Многія рэжысёры адзначаюць, што пошук грошай для іх прафесіі — натуральная з'ява. Ці ўсё ж гэтым пытаннем павінен займацца прадзюсар?**

— Пошук грошай — гэта не праблема рэжысёра, так не павінна быць. Гэта пытанне прадзюсарскае. Для мяне вялізная загадка, як прадаваўся мой «Рыжык у Залюстроўі», бо рэальна я яго сустракала і ў сетцы, і на розных каналах. Ведаю толькі, што з інстытутам прадзюсарства ў нас вялікія праблемы. Быццам нашы стужкі нікому не патрэбныя, але рэжысёры бачаць, што іх фільмы цікавыя публіцы. Прадзюсарства — таксама палка з двума канцамі, таму што кінематаграфісту даводзіцца цалкам падпарадкавацца прадзюсару. Адна справа — калі гэта сапраўды пісьменны чалавек, які добра ведае аўдыторыю, мае кінагуст ці кінаадукацыю, тут трэба мець моцную інтуіцыю і камерцыйную жылку, але дзе знайсці такіх прафесійных людзей? Калі прадзюсар таленавіты, напэўна, гэта добры рухавік для кінематографа. Але ў мяне пакуль не было магчымасці папрацаваць з такім прадзюсарам. Сябры распавядалі пра іншы бок медаля, калі прадзюсар навязваў свой пункт гледжання і не прымаў ад рэжысёра ніякіх пярэчанняў.



*Алена Турава падчас здымак фільма «Рыжык у Залюстроўі».*

**— Як вырашылі паспрабаваць сябе ў дзіцячым кіно?**

— Адчуваю, што гэта сфера, дзе я магу нешта сказаць. Я вельмі люблю гэты жанр і заўсёды гляджу ўсё новае, што з'яўляецца на экранах. Здарылася так, што мне прапанавалі зняць кіно пра тое, што робіць Дзед Мароз летам, я пагадзілася, распрацавала ідэю. Але калі пачала гэтае кіно здымаць, зразумела, што для рэалізацыі такога праекта на кінастудыі не хапае тэхнічных сродкаў, і мы вырашылі зрабіць некаторых персанажаў маляванымі, як у стужцы Земекіса «Хто падставіў кроліка Роджэра?», бо студыя анімацыі ў нас існавала. Вельмі многага мы на той час не ўмелі: не ведалі, што такое храмакей, не ўмелі карыстацца камп'ютарнай графікай. Гэтае кіно атрымалася так званым лікбезам для ўсіх супрацоўнікаў студыі, мы вучыліся ўсяму на пляцоўцы, і ў выніку менавіта дзякуючы гэтай стужцы кінастудыя выйшла на новы тэхнічны ўзровень.

**— У анімацыйным кіно вы не ладзіце кастынгі акцёраў, з гэтым вам давялося сутыкнуцца на ігравой пляцоўцы. Кажуць, з дзецьмі-акцёрамі складана працаваць...**

— Сапраўды, анімацыйнае і дзіцячае ігравое кіно адрозніваюцца не толькі жанрава, але і сутнасна. У анімацыі ўсё робіцца рукамі, патрэбныя майстры, але калі яны ёсць, намаляваць можна ўсё. У ігравым кіно праблем нашмат больш: і касцюмы, і дэкарацыі, і акцёры. Я працавала амаль з усім узроставым спектрам акцёраў: ад немаўлят да падлеткаў. Былі дзеці, якія выдатна ігралі: ведалі словы на памяць, заўсёды слухалі парады. А былі хуліганы, якія так баяліся здымачнай пляцоўкі, што станавіліся ціпшэй за ваду. Усе дзеці розныя, таму трэба шукаць адмысловыя падыходы. У «Кіндэрвілейскім прывідзе» быў маленькі трохгадовы акцёр. Гэта самы складаны ўзрост, бо дзеці баяцца былі і чуюць, што ім кажаш, але робяць па-свойму, таму бессэнсоўна нават арганізоўваць кастынгі. У працы з нашым маленькім акцёрам дапамагалі толькі цукеркі ды шакаладкі. Без усялякіх жартаў, мне давялося карыстацца прыёмамі дрэсуры: прывязвала шакаладку да лескі і апускала ў фантан, каб хлопчык зрабіў так, як трэба было для фільма. Пасля нам рабілі кампліменты наконт таго, як таленавіта іграе наш акцёр... Яшчэ раз упэўнілася ў тым, што рэжысёрскія задачы вырашаць трэба любой цаной.

**— У Акадэміі мастацтваў неяк быў курс рэжысёраў дзіцячага кіно, але выпусціліся толькі некалькі рэжысёраў з такой спецыяльнасцю. Ці значыць гэта, што дзіцячае кіно ў нашай краіне не мае перспектывы?**

— Лічу, што дзіцячае кіно — вельмі перспектыўны жанр, больш чым запатрабаваны! Але я б назвала гэта сямейным кіно, якое выпускаецца большасцю студый па ўсім свеце (настолькі яно папулярнае). Калі адкрыць праграму, што паказваюць у нашых кінатэатрах, то больш за 70% — гэта сямейнае кіно. У нас чамусьці гэты жанр амаль не запускаецца. Не таму, што няма каму такія фільмы ствараць, — людзей, якія б пагадзіліся іх здымаць, дастаткова. Некалькі гадоў таму я сама спрабавала запусціцца з такім праектам, але кінастудыя не зацікавілася. Хоць я думаю, што сямейныя фільмы вельмі камерцыйна паспяховыя. Як глядач, я б дакладна сказала, што на такое кіно хадзяць. Я і сама хаджу на яго ў кінатэатры. Я ўсё ж за тое, што трэба шукаць прарока ў сваей Айчыне: калі ў нас ёсць ня дрэнныя ігравыя фільмы, чаму б не прарэкламаваць іх? Нават за невялікія сродкі можна зацікавіць гледача ненавязлівай рэкламай.

Наш глядач не ведае, што здымаецца ў Беларусі, адсюль і здзіўленне «А кінастудыя яшчэ працуе?!». Вельмі крыўдна чуць, калі ўзгадваюць часы, калі тут працаваў Нячаеў, але кажуць, што зараз нічога не адбываецца. Насамрэч на кінастудыі былі і пасля паспяховыя фільмы. Напрыклад, я дагэтуль атрымліваю ўдзячныя водгукі. І добра, што яны ёсць, бо рэжысёру патрэбнае адчуванне, што ён працуе для кагосьці.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ЗАКРУЦІЦЬ КОЛА

## Вялікае фестывальнае жыццё ў маленькім горадзе



Падчас фестывалю «Чароўны куфэрак».

**Кажуць, што тэатр пачынаецца з вешалкі, але гэта памылковае меркаванне прымусіла многіх забыцца на тое, што любое мастацтва, як і тэатр, пачынаецца ў першую чаргу з асоб — незалежна ад таго, дзе, калі і як. Галоўнае тут — хто. Дзякуючы ініцыятывам людзей, мастацтва можа прыйсці ў кожны рэгіён, горад, мястэчка… Напрыклад, у Любані ўжо больш за 20 гадоў ладзіцца фестываль дзіцячай тэатральнай творчасці «Чароўны куфэрак».**

### БЕЗ ФАЛЬШУ

Сёлетні фестываль стаў 11-м: ладзіцца раз на 2 гады, таму кожная падзея не толькі цікавая, але і доўгачаканая — тэатр у гэтым маленькім беларускім горадзе любяць шчыра. Вось таму і «нарадзіўся» фестываль. Хаця гэта можа падацца нязвыклым: лічаць, што тэатр — мастацтва элітарнае, а яго прывілея — гарады вялікія. Наўрад ці ў многіх маленькіх гарадах Беларусі ёсць свае тэатры, і на гастролі ў глыбінку тэатры выпраўляюцца нячаста (гэта не таннае задавальненне). Вось і атрымліваецца, што тэатр адмяжоўваецца ад публікі не па волі гледача. Усё ж у правінцыі мастацтва таксама запатрабаванае — не менш, чым у сталіцы. Пра гэта сведчыць і той факт, што на «Чароўны куфэрак» не толькі гледачоў, але і ўдзельнікаў прыязджае шмат, падкрэслівае адзін з яго заснавальнікаў, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і спраў моладзі Любаньскага райвыканкама **Васіль Каткавец**:

— Ад гасцей нельга адбіцца, яны едуць самі, нават не трэба нікога і запрашаць! Вельмі складана адбіраць удзельнікаў: сёлета прыйшло 42 заяўкі, але мы змаглі прыняць толькі 17, бо фестываль не безразмерны. Мы знайшлі прынцып, як адбіраць удзельнікаў: штораз стараемся, каб палітра выступленняў была розная. Тут галоўнае не спаборніцтва, а свята дзяцінства і душы.

Кожны раз лейтматывам, тварам фестывалю становіцца нейкая беларуская асоба. Раней ужо былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі і іншыя выбітныя дзеячы нашай культуры, а сёлета галоўным героем стаў Францыск Скарына. Арганізатары «Чароўнага куфэрка» не маглі абмінуць такую значную для беларускай гісторыі асобу і падзею, як 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Васіль Каткавец натхнёны першадрукаром — духоўнасцю Скарыны, якую на фестывалі спрабуюць пранесці праз тэатральнае жыццё з дапамогай дзіцячай міласэрнасці і ўзаемаразумення, якіх сёння так не хапае, асабліва ў правінцыі: «Мой былы кіраўнік сказаў мне: “Правінцыя — стан душы, толькі там выжыве культура”. Таму я ўпэўнены, што акрамя вялікіх фестываляў кшталту “Белай вежы”, “ТЭАРТУ”, “М@ртКантакту”, павінны быць і “Чароўныя куфэркі”, якія ладзяцца ў невялікіх гарадах. Яны ствараюць не толькі атмасферу свята, але і даюць душэўную цеплыню».

Пачынаецца кожны фестываль з асаблівага абраду: кіраўнікі тэатральных калектываў і арганізатары падзеі «закручваюць» кола творчасці і натхнення. А яго, здаецца, закручваць і не трэба: дзеці і без адмысловых рытуалаў гатовыя ісці на сцэну, бо для іх «Чароўны куфэрак» — не толькі магчымасць праявіць талент ды выступіць на вялікай сцэне, але і знайсці новых сяброў з Беларусі і блізкага замежжа. Напрыклад, на сёлетні фестываль прыехаў тэатральны калектыў «Гарэзы» з Харкава. Што да беларускіх калектываў, то, як і хацелі арганізатары, палітра тут сапраўды яркая і вельмі разнастайная: ёсць калектывы з Барысава, Мінска, Гродна, Маладзечна, Салігорска, Беразіно, Слуцка, Дзяржынска, якія прывозілі шмат узнагарод з міжнародных тэатральных фестываляў за свае пастаноўкі — не заўсёды ідэальныя, але заўжды шчырыя. Усё ж не так проста стварыць сапраўдны, сур’ёзны дзіцячы тэатр, тым больш калі няма магчымасці вучыцца ў дарослых тэатраў.



«Муха-Цакатуха» ў выкананні тэатра «Гарадзенскі званочак».

### АДНА МОВА

І сапраўды, калі хочацца зарадзіцца энергіяй, то «Чароўны куфэрак» — гэта тое самае мерапрыемства. Часам здзіўляе, як маленькія акцёры не па ўзросце ўзважана і сур’ёзна выконваюць вельмі недзіцячыя ролі — з маральным выбарам, з нейкай жыццёвай мудрасцю. І тут не ўбачыш ніякай гульні. Як кажуць кіраўнікі дзіцячых тэатральных студый, іх вучні проста не могуць іграць — дзеці вельмі натуральныя ў кожнай справе, таму на сцэне жывуць, кажа кіраўнік Харкаўскага тэатра з 30-гадовай гісторыяй «Гарэзы» **Алена Вартанян**:

— Тэатр — гэта ў першую чаргу жыццё і драйв. У нас ёсць і адмысловы дэвіз (мачыма, крыху дзіцячы, але вельмі шчыры): «Дарыць радасць людзям». Нашы маленькія акцёры (а іх 120 чалавек) заўсёды стараюцца прытрымлівацца гэтага запавету, таму нічога не робяць проста так: у нас ёсць нават патрабаванне — дзеці павінны не іграць, а пражываць на сцэне сапраўднае жыццё.

Мова тэатра зразумелая кожнаму. Сябры з Харкава прывезлі выступленні на ўкраінскай, айчынныя тэатральныя калектывы выступалі на беларускай і рускай мовах, але не было ніякага непаразумення: ухапіць эмацыйны стан, важную думку, пасланне — вось галоўнае. І спектакляў удумлівых, ра-зумных і моцных было шмат: ставілі «Муху-Цакатуху» К. Чукоўскага, «Пясчаны замак» па п’ёсе беларускага драматурга С. Кавалёва (дарэчы, гэта была прэм’ера: Любаньскі дзіцячы тэатр яшчэ не паказваў спектакль гледачу), «Танцы плюс» А. Жанайдарава, «Казу-манюку» паводле беларускіх народных казак, «Красавіцкае вядзьмірства» Р. Брэдберы, «Шчаўкунка і мышынага караля» Э. Т. Гофмана ды іншыя.

Свае спектаклі «Гэта ўсё яна» і «Адамавы жарты» прывёз гледачу Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі — падарункі не толькі для дарослага гледача, але і для маленькіх удзельнікаў фестывалю: каб вучыліся ў старэйшых калег.

Лічыцца, што тэатр — гэта забава, адпачынак ці інтэлектуальны штурм для гледача. Але ўсе забываюцца, што для тых, хто стварае пастаноўку, тэатр, можа, яшчэ нашмат важнейшы і вельмі карысны, падкрэслівае **Мікалай Андрэеў**, галоўны рэжысёр мінскага тэатра лялек «Батлейка»:

— Я сам яшчэ са школы займаюся тэатрам, таму скажу з веданнем справы, што тэатральнае мастацтва — самае-самае ў многім, а для дзяцей яно наогул вельмі важнае і патрэбнае, бо толькі тэатр можа зрабіць дзіця свабодным: на сцэне вучацца камунікаваць і не палохацца публічнай адзіноты, што вельмі істотна для чалавека.

### ЗНАЙСЦІ ГЛЕДАЧА

На жаль, прыкладаў такіх ініцыятыў у Беларусі няшмат, яшчэ ў Беразіно ладзіцца фестываль народных тэатраў «Бярэзінская рампа». Але гэта не значыць, што да тэатра цікавасці ў правінцыйнага гледача няма: пытанне ў тым, што аўдыторыя не прывучаная да тэатральнага жыцця. Хаця ёсць гарады, якія маглі б стаць узорнымі: у літоўскім Панявежысе тэатральнае жыццё не толькі існуе — яно там віруе! Іх тэатр заўсёды запрашаюць на міжнародныя фестывалі і гастролі.

Забыцца пра надзённы хлеб і далучыцца да высокага ў акцёраў атрымліваецца гэтак жа лёгка, як і ў гледача: для дзяцей граць на сцэне — гэта не прафесія, а стан душы. Яны дагэтуль гатовыя радавацца простым рэчам — чытаць Чукоўскага і станавіцца яго героямі. У такія хвіліны перастаеш разумець, дзе ж тое пакаленне, пра якое кажуць «дзеці інтэрнэту»? Напрыклад, дакладна можна сказаць, што ў Любані маладое пакаленне не згубілася. Тэатр «Летуценнікі» працуе тут ужо 35 гадоў і ніколі не было праблем з недахопам маленькіх акцёраў. Але яшэ больш узрушвае той факт, што выпускнікі гэтага маленькага правінцыйнага тэатра сёння выступаюць нават у сталічных творчых калектывах. Максім Брагінец, напрыклад, — акцёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, а Алена Шкуратава — Драматычнага тэатра беларускай арміі.

У многія «дарослыя» сталічныя тэатры глядач ідзе на спектаклі проста адпачываць. Дарослыя ў адрозненні ад дзяцей стаміліся нешта шукаць, таму ў кожным з тэатраў ёсць спектаклі для такіх «стомленых». А вось на «Чароўным куфэрку» такіх не было — нават «Муха-Цакатуха», якая, здавалася б, не мае патаемных сэнсаў ужо вельмі даўно, тут паўстае не звычайнай казкай, а фантасмагорыяй, выкрываннем, нават адкрыццём. Таму што нястомныя маленькія акцёры заўжды рады паказаць свае спектаклі для гледачоў, не распешчаных тэатральнымі забавамі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

Добрыя дзіцячыя калектывы паказваюць сябе на «Чароўным куфэрку», падкрэслівае актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Марыя ЗАХАРЭВІЧ**, якая прыехала ў Любань, каб ацэньваць работы маленькіх акцёраў:

— Калі дарослыя артысты распавядаюць нешта дзецям, то яны павінны быць такімі натуральнымі і праўдзівымі, каб у гледача не ўзнікла і думкі пра падман: фальш на сцэне не прымаецца. У дзіцячых спектаклях фальшу наогул няма: яны іграюць як могуць, іграюць тут і цяпер, выкладаюцца на сто адсоткаў. Галоўная задача маленькіх артыстаў — данесці шчырую эмоцыю. Я і зараз у гэтым упэўнілася на праглядзе спектакляў — столькі энергіі і падрыхтоўкі немагчыма не заўважыць.

Акцёр мінскага тэатра юнага гледача **Алег ЧЭЧАНЕЎ адзначае**:

— Ёсць класічны прыклад і аднаго з беларускіх тэатраў у Маладзечна. Ён развіваўся вельмі хутка, цікавасць гледача расла, таму я ўпэўнены, што падобных фестываляў і тэатраў павінна быць шмат, хоць бы ў кожным раёне, бо без гэтага няма той часткі жыцця, якая называецца не толькі культурай, але і адпачынкам. Я на «Чароўным куфэрку» больш з-за прафесійнага інтарэсу: заўважыў, што калі гляджу на дзяцей, то сам вучуся — драйву, новымі ідэям. Вядома, часам якасць рэжысуры і выканання не ідэальныя, але само існаванне такога фестывалю — гэта сапраўдная падзея для тэатральнага жыцця краіны.

Талент заўсёды можа прабіцца, лічыць дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кавалер ордэна Францыска Скарыны **Уладзімір МІШЧАНЧУК**:

— Мне здаецца, што менавіта ў так званай правінцыі ўсё можа быць намнога лепш, чым у сталічных творцаў. Тут яшчэ засталося такое «некранутае» стаўленне да творчасці, якога ўжо значна меней у сталічных калектываў, — чысціня, адданасць і любоў да мастацтва. Можна заўважыць больш непасрэднае ўспрыманне жыцця, яго абставінаў і твораў, з якімі артысты працуюць. Упэўнены, што менавіта ў правінцыі нараджаюцца геніяльныя творцы, якія потым запатрабаваныя нават за межамі Беларусі.

# РАДАЎНІЦА-ПАСАКАЛЬЯ

## Фантастычная сімфонія вясны

На сваёй струне



Ларыса СІМАКОВІЧ,
кампазітар

Радаўніца мінулася, а сны засталіся.

Без паўз, без знакаў прыпынку, без якой-небудзь логікі сны акрэслівалі сваю тужлівую прысутнасць. Фрагменты старых фота, фрэсак Леанарда, партрэтаў Дзюрэра і мноства іншых падрабязнасцяў з чужых жыццяў адбіваліся на гладкіх паверхнях шкла, люстэрак, ільду і нагадвалі раскіданую калоду карт.

Сны дакучліва настойвалі на паталагічнай «залежнасці партытуры ад выканаўцы» і выкідвалі з калоды адвольна абраныя сюжэты. Сюжэты перамешваліся, блыталіся, кружылі свой ачмурэлы канапляны танец і надломвалі тонкую наледзь прыдбанай псіхічнай няўстойлівасці. Не самы лепшы жанр. Цяжкім ходам галоўная тэма. Пры шматлікіх паўторах верхнія галасы вар'іруюцца. Вар'і… вар'я… Гэта працягнецца аж да самай Сёмухі. Стракаты пераглят былых падзей. Нечае жыццё. Нечае дзяцінства. Неўшанаваны дзень. Неўшанаваны твор. Неўшанаванае служэнне. Неўшанаванае 125-годдзе. Неразгаданы да канца Рыгор Шырма і тое, што для яго было дарагім.

Няспешнасць Радаўніцы-пасакальі супадае з містычнымі танцамі мільтанаўскіх Анёлаў і надае шэсцю абрысы карагода. Пакуль Пасакалья гучыць — спакою не будзе. Анёльскія карагоды картуюць сваю калоду, з якой раз-пораз выпадае адна-другая карта-піяро. Пакуль ляціць, паспявае прапісаць тонкі профіль свайго анёла-аўтара, а прызямляецца неспадзяваным снегападам. Спалоханай вясне няма чым захінуць зялёную траву і белую вішню. Збітыя з панталыку травеньскія салаўі адклалі свой ангажамент да пачатку чэрвеня.

***

Халодны з раніцы аўторак адаграваўся пад сонцам. *У паветры чулася яшчэ начная ціхасць, што прыглушвала галасы і гукі* (І. Мележ), а свята Радаўніцы ўжо сышло. Шчымлівае свята. Раз на год. Церабенне пёркі-пакуты, шмальцаванне пятлі-віны, трымценне, тахканне. Усё імкнулася займець форму, хай сабе няўлоўную, эфемерную, як прафесія музыканта…

Пасакальнае шэсце насоўвалася нібы каровы з-за рэчкі. Пыліла церніцамі згрызотаў, перасохлых слёзак ільну. Церусіла горкім тытунём. Перацірала чорны мак здрабнелых спадзяванняў. Цяжэла ад цёмнай густой брагі непазбыўнасці, ад цупання цэпаў-пазыкаў, ад даўкіх гронкаў каліны-пакутніцы. Цуд у рэшаце рыфмаваўся сёння з… суд! Урэжце ім! — *каўнер цісну горла, замінаў гаварыць* (І. Мележ).

Пацяжэлае цела Пасакалі-радаўніцы, набрынялае ўласнай урачыстасцю, расло караваем у печы. Заплываючы жалем, абуджаны дзень усмоктваў у сябе галасы палахлівыя і тонкія, бурклівыя і цнотныя. Заглынаў свежыя вобразы, аблашчваў патоляй, спавіваў, гушкаў і ўкладаў у аканіцы памяці. У маленькіх сляпых акенцах з разьблёнымі ліштвамі (У. Караткевіч) цьмяна паблісквалі далёкія падзеі, таўкліся ўспаміны-згадкі.

Прадчуваючы блізкі травеньскі дзень, у адной з аканіц здзіўлена і наіўна свяціла дзяцінства Станіслава Манюшкі. Яно стракацела, гудзела, гуляла высокім ветрам і нізкімі хмарамі, вільготнымі пахамі і чароўным водарам смілавіцкай зямлі! «Я тут жыву-у-у-у!» — крычала яно. «Я тутака куваць навучуся!» — спявала яно матчыным голасам зязюлідзяўчыны, даўганогай і танкарукай, што выткалася з тых самых дажджоў, суніцаў, брусніцаў, духмяных вянкоў на Духаў дзень і цёплай кары старога дуба ў гаі за сінім возерам.

…Міма ціха праплыло 260-годдзе Восіпа Казлоўскага. Жыццё як стрэлка на гадзінніку, як кварта-квінтовае кола, *«свершив печальный круг»* згасла ўсё ж на ўлонні сваёй танальнасці. Магілёўская зямля адазвалася музыкай Восіпа Казлоўскага. Ніхто не пачуў. Абшары Магілёўшчыны адсвяткавалі маленства кампазітара, адсвяткавалі плён пяцігадовага навучання музыцы Міхала Клеафаса Агінскага, стварэнне дзяржаўнага гімна Расійскай імперыі, незабыўныя ўрокі музыкі вучню Каралю Ельскаму. Ніхто не заўважыў. Мільтанаўскія Анёлы хіба… і памяць. Урачыста маўчала ўсё, што магло прамаўляць, спяваць, святкаваць. Неўшанаванае 125-годдзе сірацінай прысела на край сцэны Малой канцэртнай залы імя Рыгора Шырмы.

Зямля маўчала, бо — ведала. І вада ў студзёных глыбінях замаруджвалася — слухала. І паветра замірала — наталялася. Маўчалі каляіны сцежак, скутыя маразамі, па якіх некалі шпарка, лёгка, з пятнаццацю капейкамі ў кішэні росным ранкам бег няўрымслівы хлопчык. Уцёк з хаты. Хлопчык, у якім жыла нікім яшчэ не заўважаная высокая Душа, бег з роднай вёскі ў свет па веды. Разам з чуйнымі прыдарожнымі травамі, рэдкімі птушкамі



Загучаў Мантэвэрдзі. «Балет няўдзячных» уздыхнуў роспачна-іранічным фрагментам. А хто любіць тую службу пры двары з абавязкамі прыдворнага капельмайстра? Восіп Антонавіч трываў і скарыстаў магчымасць выдаць у Пецярбургу два зборнікі твораў М. К. Агінскага (паланэзы і рамансы). Праўда, за свае грошы. «Паралельная танальнасць» падзей праявіцца праз два стагоддзі. Рыгор Шырма на свае сродкі выдасць першы паэтычны зборнік Максіма Танка, пазней за свае ж грошы будзе выдаваць зборнікі сабраных песень. Алесь Рашчынскі паўторыць гэты пасаж яшчэ праз амаль стагоддзе і выдасць некалькі зборнікаў самаруч запісаных песен. Міхась Раманюк заплаціць не грашыма, але жыццём. Падарунак сястры-Вечнасці: выратаваныя рарытэты аўтэнтычных страёў Хойніцкага раёна вернуць да прытомнасці здранцвелую нацыю. «Дзівосная рыфма» вызваленняў западавалена пратупала свой рытм: як некалі Рыгор Шырма вызваліў з турмы Максіма Танка, так Якуб Колас вызваліў з-за кратаў Рыгора Шырму…

Пасакалья плыла, прыпынялася, завісала над горадам як дождж з перагонамі. Яе бязважкія краі падтрымліваліся тонкімі пальцамі паэтаў, музыкантаў, мастакоў. Яны ўздымалі над галовамі, нібы маніфестоўцы, свой шматметровы сцяг — *«раёк нішто сабе… свае пчолы, свой мёд…»* (Б. Сачанка). Пасакалья ступала годна і велічна. Цугам, гужам, наўсцяж. Пакідала сляды, знакі: *за год святыя сляды абрастаюць мохам* (З. Бядуля). Тканы ручнік адкрывае код. Звычайнае перакідваецца ў парадаксальнае і спяваецца радкамі Я. Янішчыц: *адзінота — калючая, давер — дзіцячы, цнота — сталая.*

***

20 студзеня 2017 года ўрачыстая цішыня апанавала наваколле. Ціха было на вуліцах, плошчах, скверах, на нядаўна высаджанай маладымі ялінамі алеі знакамітасцяў. Ціха было ў бібліятэках, хатах, галовах і там, дзе вясною сумленне над дарогай і высокім небам. Палымяны Дух імкнуўся насустрач невядомаму, наканаванаму, ляцеў насустрач здрадам, выпрабаванням, расчараванням. Высокая Душа прагла няспынна звінець і спяваць. Біць у званы, узносіць харалы, узводзіць песні-масты, будзіць тых, хто спіць, вяртаць адабраныя галасы. Ліхтары пражытых дзён, пакінутыя пры дарозе Душой, перштвараліся ў пякучыя агні, каб, барані божа, цемра, якая саступіла, ніколі не вярнулася. Неўшанаванае 125-годдзе пахадзіла-патулялася ўздоўж сцэн, здзівілася гарачай рэакцыі публікі на непрыстойна слабое выкананне кампазітарскага шэдэўра, выйшла на ганак, ухапіла халоднага паветра, патупалася па хрумсткім снезе дый ціхенька ўзнялося. *«…на гусляравым наспе жвіровым палыны ўзышлі, вырас дуб малады, зашумеў непанятлівым словам…»* (Янка Купала). Шукаем, спажываем жалуды. Агаляем карэнні. Каб ссохлі. І — урачыста — маўчым.

*…Неба сеяла цяпло…* (Янка Купала) і бласлаўляла пераемнасць. Першая вясновая гульня трэцякласніц — «гумачка». Нацяжэнні, перакрыжаванні ліній, дакладны разлік геаметрычных фігур. Заблытаная мудрагелістая канфігурацыя адным кручоным пераскокам тонкіх дзіцячых ножак вяртае перакручаную гумку да бездакорнай паралелі нацяжэння. Жыццё недзе там — паміж пачаткам і завяршэннем гульні. Паміж супакоенымі паралелямі, паміж нацяжэннем, дзе напружанасць, дыяганалі і вузлы…

Пасакалья гуляла варыянтамі. Канстанцін Галкоўскі, бласлаўлёны віленскім небам, сядзіць за адной партай з Васілём Шверубовічам — будучым гонарам тэатральнай сцэны Васілём Качалавым. Канстанцін Галкоўскі выкладае ў віленскай вучэльні ў той самы час, калі там вучыцца Яша Хейфец. Працуючы ў гімназіі імя Вітаўта Вялікага, піша тры балеты і завяршае эпоху так званага «віленскага рамантызму». Пасля сустрэчы з Рыгорам Шырмам аранжыруе для хору не адзін дзесятак беларускіх народных песень. Рамансы пішу на вершы А. Міцкевіча. А яшчэ гімн створыць. «Гімн Вітаўту» з нагоды 500-годдзя.

***

Маладая Беларусь, маладая Беларусь… такт на ¾… «Маладая Беларусь» 1917 году Усевалада Ігнатоўскага — спроба стварыць сваю рэальнасць, напісаць сваю гісторыю. *…сон злятае з павек*, праз семдзесят пяць гадоў назва вынырвае з забыцця, вабіць меладычным сугуччам і адпавядае маладой стваральнай энергіі. «Маладая Беларусь» неверагодным чынам зноў загучала, упрыгожыўшы сабой студэнцкі сімфанічны аркестр Акадэміі музыкі, з лёгкай рукі Міхала Казінца: *вольны вецер напеў вольных песень табе...* (Янка Купала). Стрыечная рэінкарнацыя? Містычны супадзенні? Карагоды Анёлаў? Чыё сваяцтва праз стагоддзе адбілася на руплівай зранку і спаўдня дзейнасці дырыжора? *А паўнатвары месяц магам з пытаннем ціснецца у дзверы: ці будуць новыя прэм'еры?* (Р. Тармола).

***

Іншаземныя паралелі. Міжчасавы дыялог. Дзівосныя мадуляцыі роспачы. Жыццё ў тэхніцы меццо-цінта — «чорнай манеры» гравіроўкі на метале. Непрыкметныя, мяккія пераходы святлаценю. Гравюры адбітак з аксамітнасцю тону, глыбінёй і вытанчанасцю светлавых эфектаў. *…тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні...* (Якуб Колас). След-espressione ў жанры няспешнай Вечнасці незлічоных разьбяроў-цесляроў... Спеўная кантылена ліній старой каменнай іконкі — мелодыя злучэння Полацка і Візантыі. Полацак нараджае Скарыну. Скарына, увабраўшы паветра роднай зямлі, выдыхне еўрапейскім Рэнесансам. Праз стагоддзі адгукнецца вершамі беларуса: «Ты вандруеш па зямлі. Ад народа да народа. Патураюць каралі. Перашкода. Ўзнагарода… Далёкага краю абсяг гэты мружны, народ, які помніць нямногіх. Свята адзіноты і росныя ружы. І ружы — ў канцы дарогі…» Вершы беларуса стануць музыкай, увасобяцца гаючым голасам сына сваёй зямлі.

Некаторыя абышліся без канцэртнай залы. Музыка-жыццё не адбілася ні адным урачыстым бомам, ніводным хваласпеўным гімнам, ніводнай згадкай-успамінам. Рэха жыцця, нібы рэха харала, не ўзнялося да неба. *Лабановіч пераходзіў ад аднаго акна да другога, каб разглядзець гэтую мясцовасць і хоць прыблізна адгадаць, дзе яго новая школа?* (Якуб Колас). Прароча і трансцэндэнтна. Зямныя мітрэнгі новай таленавітай беларускай душы…

Але ж яно раздзее. *Узыдзе сонца. І пачнуць збірацца вучні* (Якуб Колас). І адбудзецца тое не аднойчы. І *яна вернецца, памяць, ціхай прыгажуняй… разгаіцца старой дзічкай…* (К. Чорны)

Сціжма пытанняў. Ці бездакорная яснасць? І адзнака высокага нетутэйшага даверу — пранізлівая здольнасць стаяць на сівернай пройме падзей, на вастрыні пытання, на мяжы разрыву, над безданню…

Радаўніца-пасакалья сыходзіць. Сны цішэюць. *Сады агалошваюцца нястомным цінькannем сініц* (І. Навуменка). Вяртаюцца тутэйшая песня, тутэйшы танец, тутэйшы капялюш. Вяртаюцца.

А я… *…я знайшоў цёплае гняздо для пакалечанай ластаўкі…* (З. Бядуля)

# СНЫ ПУСТЭЛЬНІКА

## Як абстрагавацца ад цывілізацыйных працэсаў і пачуць сябе, паказвае Каміль Камал

Імя мастака Каміля Камала айчынныя аматары мастацтва з даўняга часу асацыіруюць з развіццём беларускай нацыянальнай культуры. Нягледзячы на тое, што радзіма аўтара — сонечны Азербайджан, ён лічыць сябе беларускім мастаком і прызнаецца, што Беларусь — яго любімая радзіма. Менавіта тут ён атрымаў прызнанне як творца, тут сустрэў лепшых сяброў, выкладчыкаў, стварыў сям'ю. З моманту пераезду ў Мінск у мастака было нямала выпрабаванняў, аднак ён змог развівацца і з году ў год дэманстраваў гледачу новыя мастацкія дасягненні. Сёння ў галерэі «Мастацтва» прадстаўлена яго выстаўка «Сад Дэрвіша».

Каміль Камал абстрагуецца пры адлюстраванні рэчаіснасці. Яго галоўная «зброя» ў сістэме арганізацыі мастацкага працэсу — фантазія, без якой, лічыць мастак, немагчыма прэтэндаваць на якасны аўтарскі прадукт. Ён ніколі не піша творы з натуры, спрабуе сумяшчаць рэальнае і выдуманае, падмацоўваючы сюжэт філасофскімі разважаннямі і падтэкстамі. А колеры для твораў выбірае звязаныя са з'явамі прыроды, якія нагадваюць пра месцы, дзе прайшлі дзіцячыя гады.

У кулуарах творцу называюць віртуозам, бо Каміль Камал актыўна працуе адразу ў трох кірунках мастацтва — жывапісе, скульптуры і графіцы. Як сумяшчае ўсё гэта і адкуль прыходзіць натхненне, сам не разумее. Аднак падкрэслівае, што сядзець на адным месцы яму складана, бо ён жыве імпульсам, эмоцыяй, а не стварае работы толькі на заказ: як толькі позірк патрапіў на цікавы аб'ект альбо адбылася падзея, якая зачапіла, адразу спяшаецца ў майстэрню і пачынае працу.

Творы прыцягваюць меладычнасцю і канцэптуальнасцю. Выстаўка «Сад Дэрвіша» — доказ таго, як мастак можа скульптуру і жывапіс аб'яднаць адной тэмай, граматна злучыць творы экспазіцыяй і праз дэталі данесці гледачу галоўнае. У апошнім праекце аўтар раскрывае філасофію быцця, яму важна перадаць эмацыйны стан чалавека — «пустэльніка», які знаходзіцца сам-насам з сабой, са сваімі думкамі і душэўнымі перажываннямі. Атрымліваецца, мастак запрашае гледача на некаторы час паставіць сябе на месца герояў і адчуць, зразумець, як гэта — быць адзінокім, нават непатрэбным. Гэта своеасаблівы эксперымент альбо тэрапія творчасцю, якая ў далейшым не дазволіць прайсці міма, не падаць рукі альбо застацца абыякавым у падобнай рэальнай сітуацыі.



*«Суфіст і мора», 2014 г.*

Каміль Камал падкрэслівае, што ніколі не прэтэндуе на тое, каб быць да канца прачытаным і зразумелым: кожны чалавек у яго творах можна знайсці шмат сэнсаў, дэталяў, пра якія сам аўтар нават і не задумваўся. Гэта працэс дыялогу, у якім не толькі глядач знаходзіць важныя элементы, падтэксты, але і мастак раскрываецца для сябе самога па-іншаму.



Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што творы Каміля Камала падобныя да рознакаляровых дзіцячых сноў, напоўненых шчырымі эмоцыямі і перажываннямі. Сам жа творца адзначае, што праз мастацтва ён хоча абстрагавацца ад працэсаў, што навязаныя свету цывілізацыяй. Ён не разумее, чаму чалавек вырашыў, што без машыны менш шчаслівы, альбо чаму пабудова вялікіх хмарачосаў важней за аднаўленне гістарычных каштоўнасцей альбо зялёных зон. Кожнае дзеянне, кожная дэталь твора павінна быць напоўнена сэнсам. Гэтаму Каміля Камала навучыў яго самы дарагі выкладчык — Май Данцыг, з якім у мастака склаліся даверлівыя, нават сяброўскія адносіны.

Цяпер мастак і сам выкладчык. Вучыць студэнтаў усяму, што ведае пра творчасць, і заклікае любіць тое, да чаго дакранаюцца. Бо яго мастацкі досвед — доказ таго, як можна любіць і паважаць дзве краіны, як дасягнуць мэты, калі ў кішэні толькі тры рублі (да паступлення ў інстытут мастак больш як месяц спаў на вакзале, але вытрымаў усе іспыты), і як слухаць сваё сэрца, якое ніколі не падмане і падкажа правільны шлях.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

Музей валуноў — парк камянёў у сталічным мікрараёне Уручча — самая загадкавая славутасць не толькі ў Мінску. Ні адна сталіца Еўропы не мае нічога падобнага. Толькі ў Літве створаны аналагічны музей, але ён у некалькі разоў меншы за наш і даволі просты па структуры. У музеі сабраныя камяні з усёй Беларусі.

Ідэя стварэння парка-музея належала Гаўрыле Гарэцкаму — аднаму з першых беларускіх акадэмікаў. Менавіта дзякуючы намаганням навукоўцаў-энтузіястаў з Інстытута геахіміі і геафізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 1985 годзе і з'явіўся Музей валуноў. А праз чатыры гады ён быў абвешчаны помнікам прыроды рэспубліканскага значэння, але афіцыйны статус музея яму дагэтуль не прысвоены. Сёння тут сабрана больш як 2130 унікальных экспанатаў.

Валуны для беларусаў — не толькі частка прыроды, але важны аб'ект гісторыі і культуры, прадмет навуковых даследаванняў. Унікальны музей камянёў — жывая энцыклапедыя не толькі для студэнтаў, але і для ўсіх, хто цікавіцца сваёй спадчынай.

Многія з камянёў маюць гісторыю, легенды. Напрыклад, камень «Дзед» раней быў цэнтральным аб'ектам Мінскага паганскага капішча, якое размяшчалася на беразе ракі Свіслач і праіснавала да пачатку XX стагоддзя. У 1880 годзе, падчас падрыхтоўкі да святкавання 900-годдзя хрышчэння Русі, царскія ўлады забаранілі ладзіць тут паганскія службы. Свяшчэнны агонь патушылі, а вешчы дуб спілавалі. Але пакланяцца каменю людзі працягвалі да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сёння «Дзеда» не абыходзяць увагай ні гараджане, ні турысты.

Цікавая задума музея — мініяцюрная імітацыя Беларусі ў камені. На вялікай тэрыторыі выкладзена карта нашай краіны: групы валуноў — буйныя населеныя пункты; самыя высокія узгоркі — мініяцюры самых высокіх кропак Беларусі — гор Дзяржынскай і Лысай; сцяжынкі — галоўныя рэкі; тры побач пасаджаныя елкі — абласны цэнтр; нізкарослы хмызняк — мяжа карты. Пры гэтым найбольш цікавыя экспанаты размешчаны на «каменнай карце» менавіта ў тых месцах, адкуль яны былі вывезены. Да музея на вольным паветры вядзе «Алея валуноў» — экспазіцыя найбольш буйных ледніковых камянёў.

**Святлана ЕРМАКОВА**



*Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
25.05.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1566.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1776

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686